№ 23 (717) 15 чэрвеня 2011 www.nn.by

незалежная газета

# Наша Ніва

ПЕРШАЯ БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЕТА

Заснаваная ў лістападзе 1906. Адноўленая ў маі 1991. Выдавец: Прыватнае прадпрыемства «Суродзічы». Выходзіць штотыднёва, у серады



## А потым як шандарахне

Старонка 3



## У начным падполлі: нелегальныя гонкі ў Мінску

Старонка 12

Тэндэнцыі

## Трэнер Захараў разбіў «Бэнтлі» за $190 тысяч

і не даў праверыць сябе на алкаголь.

У 5.30 раніцы ў нядзелю 12 чэрвеня ў цэнтры Мінска, на рагу праспекта Пераможцаў і вуліцы Мельнікайце, сутыкнуліся два супердарагія аўто. Паводле словаў відавочцаў, вінаваты ў здарэнні быў кіроўца Bentley Continental GT. Яго вынесла на сустрэчную паласу. Кіроўца Lexus LX570 з расійскімі нумарамі, жыхар Слуцка, не паспеў зрэагаваць. Падчас аварыі ў салоне «Бэнтлі» загарэлася абшыўка, яе за пару хвілін удалося згасіць.

У інтэрнэце адразу з'явіліся меркаванні, што «Бэнтлі» належыць Міхаілу Захараву — галоўнаму трэнеру мінскага хакейнага клуба «Юнацтва». Захараў уваходзіць у вузкі пул спартоўцаў, чыноўнікаў і бізнэсоўцаў, якія гуляюць у хакей разам з Аляксандрам Лукашэнкам.

Працяг на старонцы 7.

**Bentley Continental GT**

належыць да апошняга абноўленага мадэльнага шэрагу кампаніі. Выпуск такіх аўто пачаўся вясной 2011. У Еўропе новая машына базавай камплектацыі каштуе 154 000 еўра, у ЗША — 189 900 даляраў.

# Жыць трэба па сродках



У разгар крызісу ў старшыні Брэсцкага аблвыканкама Канстанціна Сумара з'явілася новая машына — Audi A8 L. Цана такога аўтамабіля ў мінскім аўтасалоне складае каля 117 тысяч даляраў. **Старонка 2.**

**Audi A8 L**

Адна з апошніх мадыфікацый нямецкай аўтамабільнай кампаніі. Машыны пачалі выпускаць у 2010 годзе. Аўтамабіль спалучае цудоўныя хадавыя якасці з высокай эканамічнасцю (9,5 літра бензіну на 100 кіламетраў). У Мінску такую «Аўдзі» можна набыць за 586 мільёнаў рублёў, ці 117 тысяч даляраў.

МІЛАНА ХАРЫТОНАВА, БЕЛАПАН

Нагадаем: «Нашай Ніве» і «Народнай Волі» пагражае закрыццё.

## Што рабіць чытачам?

Старонка 6.

# З банкаў у слоікі

За май валютныя дэпазіты насельніцтва скараціліся на 11%.

Тэрміновыя дэпазіты фізічных асобаў працягваюць скарачацца. Прычым беларусы забіраюць з банкаў і рублі, і валюту. За май банкі выдалі ўкладчыкам 320 мільярдаў рублёў і $464 мільёны валюты. Сімптаматычна, што такая сітуацыя працягваецца на працягу ўсёй вясны. За тры месяцы валютныя дэпазіты скараціліся амаль на мільярд даляраў. Тыя ж, хто адкладаў беларускія рублі, забралі яшчэ каля $500 мільёнаў у эквіваленце. У звароце знаходзіцца ўсё больш наяўных грошай, што падганяе наперад інфляцыю.

Недавер банкаўскай сістэме відавочны — многія людзі меркавалі, што банкам пагражае банкруцтва. Каб прывабіць укладчыкаў, банкі істотна павысілі стаўкі па дэпазітах. Напрыклад, «Тэхнабанк» давёў стаўкі да 26% у рублях і 11% у валюце. І тая, і другая прапанова прадугледжвае доўгае размяшчэнне грошай (на пяць гадоў) і капіталізацыю. Гэта азначае, што фактычная стаўка даходзіць аж да 30%! Вялікія банкі накшталт «Белінвестбанка» ці «Беларусбанка» прапануюць рублёвыя дэпазіты пад 23—25%.

**Яўген Васількоў**

**МВФ прапануе адпусціць курс рубля**

Міжнародны валютны фонд прапануе ўраду і Нацбанку правесці поўную лібералізацыю на ўсіх сегментах валютнага рынку і ўніфікацыю абменнага курса рубля. Кіраўнік місіі МВФ Крыс Джарвіс пасля двухтыднёвай працы місіі ў Мінску таксама раскрытыкаваў замарожванне цэнаў: «Гэта прывядзе да дэфіцыту».

| Стаўкі па дэпазітах | у рублях | у валюце |
|---|---|---|
| Беларусбанк | 25% | 9,5% |
| Тэхнабанк | 26% | 11% |



# Суд інквізіцыі

У Гродне распачаўся закрыты працэс над журналістам Пачобутам. Старонка 6.

ЮЛІЯ ДАРАШКЕВІЧ

«Наша Ніва» з'яўляецца ў кіёсках у Мінску ў сераду ад абеду, у рэгіёнах — у чацвер. На газету можна і падпісацца — глядзі **старонку 2**.

# Жыць трэба па сродках

Журналісты агенцтва БелаПАН выявілі, што ў разгар крызісу ў старшыні Брэсцкага аблвыканкама Канстанціна Сумара з'явілася новая машына. Гэта Audi A8 L. Цана гэтага аўтамабіля ў мінскім аўтасалоне складае каля 117 тысяч даляраў.




МІЛАНА ХАРЫТОНАВА, БЕЛАПАН

**Кіраўнік Брэсцкага аблвыканкама Сумар — гэта той самы чалавек, які калісьці пажартаваў пры Аляксандру Лукашэнку, што «ён вышэйшы за Бога». А восенню мінулага года Сумар прапанаваў паставіць прыжыццёвы помнік Лукашэнку за развіццё аграгарадкоў, а ўвесну гэтага года прэзентаваў сольны музычны альбом лірычных песень «Бёреза, белая подруга».**

Раней Сумар ездзіў на пазадарожніку Toyota Land Cruiser. Журналісты вырашылі даведацца падрабязнасці арыстакратычнага набыцця ў намесніка начальніка ўпраўлення сакратарыята старшыні аблвыканкама Уладзіміра Гаўрышука. Але ў размове з журналістам агенцтва БелаПАН чыноўнік катэгарычна заявіў, што гэта не тэма для размовы.

«Гэтую тэму ніхто абмяркоўваць не будзе, лепш займіцеся тым, што цікава людзям», — падсумаваў Гаўрышук.

Пасля выбараў 2001 года Аляксандр Лукашэнка ў падарункі старшыням райвыканкамаў купіў новыя «мерсэдэсы». Расказваюць, яку Пінску мясцовыя жыхары разбілі лабавое шкло начальніцкаму «мэрсу». На той час гэная машына была найлепшай у горадзе. Цяпер бы, мабыць, не трапіла і ў сотку найлепшых.

На наступны дзень пасля публікацыі пра машыну Сумара на сайце «НН», чытач даслаў у Рэдакцыю фотаздымак іншай Audi A8 L. Цікава, што нумар амаль той жа — «0124 МІ». Толькі на адзін меншы, чым на аўтамабілі Сумара. Няма таксама на нумары рэгіянальнай прыналежнасці.

Серыю МІ ў Беларусі маюць ці чыноўнікі, ці міліцыянты. Таму выпадковым гэты здымак наўрад ці можа быць. Хутчэй за ўсё, гаворка вядзецца пра закупку падобных аўтамабіляў для беларускага істэблішменту.

**Зміцер Панкавец**




**Гэтае фота, зробленае ў Мінску, нам даслаў чытач праз дзень пасля публікацыі пра аўтамабіль старшыні Брэсцкага аблвыканкама. Ён звярнуў увагу на ідэнтычную Audi A8 L, але з нумарам, што адрозніваецца на адзін знак.**

## Сцісла

• **Віцэ-прэм'ер Сямашка падпісаў дакумент «Аб надзвычайным становішчы».** Падпісаная пастанова ўрада, якой рэгулюецца ўлік асоб, якія ўдзельнічаюць у забеспячэнні рэжыму надзвычайнага становішча. Пастанова №734 прынята ў адпаведнасці з артыкулам 21 Закона «Аб надзвычайным становішчы». Яна рэгламентуе працэдуру ўвядзення НС і «размяркоўвае ролі» між сілавікамі.

• **PUTIN «падарваў» сайт Лукашэнкі.** 13 чэрвеня працяглы час не працаваў сайт кіраўніка Беларусі. На рэсурсе putinvzrivaetdoma.org абвешчана, што гэта — вынік арганізаванай імі DDOS-атакі. Сайт «Путинвзрываетдома» — хакерскі. Высачыць аўтараў атакі даволі складана.

• **Новы кіраўнік прыйшоў у мінскае метро з трамвайнага парку.** Новым начальнікам КУП «Мінскі метрапалітэн» стаў Расціслаў Юрэня. Ён быў дырэктарам філіяла «Мінсктранса» «Трамвайны парк». Ранейшы начальнік метрапалітэна Мікалай Андрэеў быў звольнены пасля таго, як на станцыю «Маскоўская» ўначы праз незамкнёныя дзверы трапілі некалькі маладых людзей.

• **Пачалося цэнтралізаванае тэставанне.** 14 чэрвеня стартаваў асноўны этап уступнай кампаніі ў ВНУ. Абітурыенты здавалі першае ЦТ — па беларускай мове. Сёлета на ЦТ зарэгістраваліся больш за 150 тыс. абітурыентаў.

**СМ**

СВАЁ КОЛА

## Беларускія класы ў Гродне

У Гродне плануюць адчыніць 1-ы і 2-і беларускамоўныя класы. Іх створаць на базе 32-й школы, дзе па-беларуску вучыцца дачка прафесара Алеся Астроўскага. Бацькі шасці будучых вучняў СШ №32 выказалі жаданне аддаць дзяцей у класы з беларускай мовай навучання, аднак гэтай колькасці яшчэ недастаткова. Гродзенцы, якія хочуць аддаць сваіх дзяцей у першы ці другі класы з беларускай мовай навучання, могуць звяртацца па т.: (029) 943-58-09 (Алесь Крой).

## Самае чытанае на nn.by за 8—14 чэрвеня

1 Аўтамабільная рэвалюцыя ў Мінску
2 Удзельнікаў акцыі «Стоп-бензін!» сустракалі авацыямі і закідвалі грашыма — відэа
3 Пад Гроднам пратэстоўцы перакрылі трасу, уступілі ў супрацьстаянне з АМОНам
4 Пасля пратэсту аўтамабілістаў Лукашэнка загадаў знізіць цэны на бензін
5 «Вконтакте» сабрала Плошчу
6 НТВ: Улады Беларусі ўпершыню спалохаліся
7 Што не падаражэла пасля дэвальвацыі? Топ-5
8 Губернатар Сумар перасеў на Audi за 115 тысяч даляраў
9 Трэнер Захараў разбіў свой «Бэнтлі»?
10 Мілінкевіч заклікае адмяніць парад 3 Ліпеня

# А потым як шандарахне

Эканамічная нестабільнасць спараджае пратэсты. Прычым не толькі ў сталіцы, але і ў рэгіёнах.

Пасля яркай і паспяховай акцыі «Стопбензін» у Мінску гучныя пратэсты прайшлі ў памежных рэгіёнах Беларусі. Гэта адбылося пасля таго, як урад прыняў рашэнне абмежаваць вываз бензіну і прадуктаў за мяжу. Многія жыхары прыгранічча зараблялі такім няхітрым гандлем, таму па іх гэта балюча ўдарыла.

Жыхар Гродзенскага раёна Мікола Баўсюк расказвае, што ў першы ж дзень пасля ўступлення ў сілу гэтых правілаў спрабаваў выехаць у Польшчу. «На мяжы спынілі. Сказалі, што мы ўжо былі цягам пяці дзён і ў вас тут салярка. Добра, мы не супраць заплаціць розніцу за гэтую салярку. Колькі? Ніхто не ведае. Давялося заварочвацца назад. Добра, што знайшлі чалавека, у якога цягам гэтых дзён выездаў не было. Людзі абураныя, шмат у каго там сваякі».

Спадар Баўсюк кажа, што потым пратэст стаў нарастаць імгненна. «Людзі проста тэлефанавалі адзін аднаму, заклікалі збірацца на пераходзе».

Вечарам 12 чэрвеня, гэта значыць ужо на наступны дзень пасля скандальнага ўказа, жыхары Гродзеншчыны перакрылі памежны пункт пропуску «Брузгі». Страйкоўцы пабраліся за рукі і ўступілі ў процістаянне з міліцыянтамі. У самы напружаны момант мужчыны згадалі беларускі гімн: «Мы — беларусы, мірныя людзі...». АМОН на нейкі час пад апладысменты адступіў.

На перамовы прыбыў старшыня Гродзенскага аблвыканкама Сямён Шапіра. «Тут пакуль кіраваць буду я, а не вы», — адразу зазначыў Шапіра. Канструктыўным дыялог не атрымаўся. Пайшлі сценка на сценку. Нават Шапіра паўдзельнічаў у штурханіне.



У Мінску сустракаюцца графіці з заклікамі да перамен.

Быў ужыты газ, два дзясяткі чалавек былі затрыманы.

На наступны дзень пасля Брузгоў падобная акцыя пратэсту прайшла ў Брэсце. Да іх таксама быў вымушаны выйсці брэсцкі начальнік Канстанцін Сумар.

Уражваюць не патрабаванні чаўнакоў, а сам факт сацыяльнага пратэсту ва ўмовах аўтарытарызму. Нягледзячы на пагрозы збіцця, штрафаў і іншых «радасцяў», людзі ўсё адно не разыходзіліся, а актыўна абаранялі свае пазіцыі. І АМАП зноў не наважыўся на татальную зачыстку, як і падчас «Стопбензіну».

Цікавую рэч сказаў адзін з лідараў кампаніі «Стоп-бензін» Арцём Шаркоў. Ён кажа, што падчас акцыі на праспекце Незалежнасці існавала негалосная дамова з міліцыянтамі: «Мы не высоўваем палітычных патрабаванняў, вы не ўжываеце сілу».

Такім чынам, улада хоча звесці пратэст да эканамічных патрабаванняў — каб не ўзнікла пагрозы змены ўлады.

Сацыёлаг Алег Манаеў перакананы, што ў беларусаў расце адчуванне несправядлівасці. Гэта тычыцца найперш сацыяльнай несправядлівасці, але палітычныя аспекты тут таксама назіраюцца.

Паводле вынікаў апытання Нацыянальнага інстытута сацыяльна-эканамічных і палітычных даследаванняў, дзве трэціны выказаліся за рынкавыя рэформы эканомікі **(старонка 9)**.

З лічбаў вынікае, што ў краіне фармуецца антылукашэнкаўская большасць. Каля 50—55% апытаных з розных прычынаў крытычна ставяцца да ўлады: не вераць у афіцыйную версію тэракта, лічаць валютны крызіс вынікам няправільнай палітыкі, асуджаюць прысуды за Плошчу. І толькі 30—35% уладам давярае і падтрымлівае.

Тым часам інтэрнэт паказвае нарастанне незадаволенасці моладзі. Праз сацыяльныя сеткі (Вкантакце, Фэйсбук і інш.) ідзе заклік штосераду выходзіць на цэнтральныя плошчы гарадоў у знак пратэсту і салідарнасці. Гэтая з'ява атрымала назву «Рэвалюцыя праз сацыяльную сетку».

На другой такой сходцы на Кастрычніцкай плошчы Мінска сабралася больш за 400 чалавек. Ніякіх палітычных патрабаванняў не выдучалі. Проста спявалі, танцавалі, добра праводзілі час. Тое самае адбылося на цэнтральных плошчах Гомеля, Віцебска, Брэста, нават меншых гарадоў — такіх, як Мазыр.

Няма сумневаў, што 15 чэрвеня можа прыйсці яшчэ болей людзей. Улады прывыклі змагацца з арганізаванай апазіцыяй, а тут маюць справу з актыўнасцю няўлоўных юнакоў. Не біць жа дубінкамі людзей, што спяваюць пад гітару?

Цікава, што сам Лукашэнка звязаў гэтыя, здавалася б, розныя з'явы, як «Стоп бензін», пратэсты чаўнакоў і глухі пратэст мінскай моладзі ў адзін ланцуг. «У нас свядомыя ў Мінску, у сацыяльных сетках у інтэрнэце заклікаюць да забастоўкі, страйкі на мяжы ладзяць. Я так буду глядзець, назіраць, а потым як шандарахну, дык не паспеюць за мяжу перабегчы», — сказаў Лукашэнка.

«А калі народ шандарахне?» — такімі адказамі поўніўся інтэрнэт у панядзелак. Людзі называлі такія словы найвышэйшага чыноўніка на адрас грамадзянаў абразлівымі.

Большасць інтэрнэт-актывістаў заклікаюць выходзіць на святкаванне 3 Ліпеня, але скандаваць там «Уходи» — «Сыходзь».

Пакуль гэтыя інтэрнэтчыкі агітуюць сярод сваіх. У публічнай прасторы гарадоў агітацыі няма. Ніякая палітычная партыя не заявіла пра падтрымку спантанных выступаў. Тым не менш, у Мінску пачалі з'яўляцца графіці з заклікамі да пратэстаў.

**Зміцер Панкавец**

# Чаўночны бунт

Прымежныя гандляры выступілі ў Брузгах і на Варшаўскім мосце.

12 чэрвеня 200—300 кіроўцаў на беларуска-польскай мяжы перакрылі трасу да памежнага пераходу «Брузгі» каля Гродна. Яны абураліся абмежаваннямі на граніцы: там не прапускалі машынаў, якія нядаўна перасякалі ўжо дзяржаўную мяжу. Указ прэзідэнта ад 11 чэрвеня абмежаваў вываз паліва. Згодна з дакументам, вывозіць поўны бак паліва плюс яшчэ 10 літраў можна не часцей, чым раз на пяць дзён. У процілеглым выпадку трэба заплаціць экспартную пошліну.

Пасля дзвюх гадзін блакады спецназ адціснуў людзей з дарогі, а найбольш актыўныя ўдзельнікі былі затрыманы.

Вядома, што пятнаццаці асобам былі прысуджаны штрафы за парушэнне правілаў пікетавання і непадпарадкаванне міліцыі. Удзельнікаў працягваюць шукаць.

У Дзяржаўным памежным камітэце адзначылі, што актыўным удзельнікам акцыі ў «Брузгах» абмяжоўваюць выезд за мяжу. Па словах прэс-сакратара ДПК Аляксандра Цішчанкі, усе затрыманыя — удзельнікі чаўночнага бізнэсу, якія займаюцца нелегальным вывазам паліва і тавараў з краіны. І на гэтым зарабляюць, не сплачваючы падаткі. Па яго словах, 60 працэнтаў ад усіх пратэстоўцаў нідзе не працуюць.

13 чэрвеня аналагічную акцыю правялі кіроўцы ў пункце пропуску «Варшаўскі мост» каля Брэста. Пратэставаць сабраліся 50—70 чалавек. Патрабавалі павялічыць мінімальную штодзённую планку вывазу з 5 да 10—15 літраў. Старшыня Брэсцкага аблвыканкама Канстанцін Сумар паабяцаў давесці аб праблемах у Мінск. На тым і разышліся. Пратэст пад Брэстам праходзіў без спынення руху аўтамабіляў. Пункт пропуску ўвесь час працаваў у звычайным рэжыме.

Чытач «НН» паведаміў, што на пункце пропуску «Варшаўскі мост» ужо раніцай 13 чэрвеня не выпускалі з Беларусі людзей, якія за апошнія пяць дзён выязджалі за мяжу. І не прапаноўвалі нават заплаціць экспартнае мыта. У Дзяржаўным памежным камітэце адмовілі наяўнасць такіх фактаў. Па словах Аляксандра Цішчанкі, вяртаюць толькі тых, хто адмаўляецца плаціць пошліну.

**Кастусь Матушыч**



**Пратэстоўцы ў Брэсце: «Мы верым Сумару»**

Надзея, якая была ў пункце пропуску пад Брэстам, калі там сабраліся людзі, адзначыла, што каля дзвюх гадзін людзям нічога не маглі канкрэтнага сказаць, пакуль не прыехаў старшыня Брэсцкага аблвыканкама Канстанцін Сумар. І чыноўнік за 15 хвілін дамовіўся з людзьмі. Людзі гаварылі пасля: «Мы верым Сумару!» Дзякавалі яму, што прыехаў.

**КМ**

**Гродзенец Андрэй Кавальчук быў сярод тых, хто пратэставаў на памежным пераходзе ў Брузгах**

«Мне здаецца, што ўдзельнічала як мінімум 200 чалавек. Прасілі вярнуць усё, як было пазаўчора. Палавіна Гродна і палавіна Брэста з гэтага жывуць. Трэба пратэставаць далей, можа, чаго даб'ёмся. Хоць цяпер ужо рэпрэсіі пачаліся. У чацвер у мяне суд».

**Запісаў ЗП**

**Набор правільнага чаўнака**

(максімальна дазволены набор для вывазу)

- Свініна — 2 кг
- Курыца — 2 кг
- Цукар — 2 кг
- Мука — 2 кг
- Сыр — 2 кг
- Масла — 1 кг
- Тытунёвыя вырабы — 2 пачкі
- Мясныя і малочныя кансервы — 5 бляшанак

**Поўная забарона**

- Халадзільнікі «Атлант»
- Газпліты «Гефест»
- Цэмент
- Сінтэтычныя мыйныя сродкі «Бархім»
- Крупы
- Макарона

## Мілінкевіч: Нягожа прасіць крэдыты ў каго толькі можна і пры гэтым праводзіць парад

Рух «За свабоду» выступіў з адкрытым зваротам да ўладаў, дзе заклікае адмовіцца ад парада на Дзень Рэспублікі з прычыны кепскага эканамічнага становішча ў краіне.

«Беларусь сёння знаходзіцца ў глыбокім эканамічным і палітычным крызісе. Аднак 3 Ліпеня будзе святкавацца на шырокую нагу. Рыхтуецца правядзенне парада з вайсковай тэхнікай: у цэнтры сталіцы прадуць баявыя машыны часоў Другой сусветнай вайны і сучасныя мадэлі, а ў небе на шоу-палёты ўздымуцца самалёты».

«Кіраўніцтва краіны працягвае жыць не па сродках».

Рух «За Свабоду» заклікае адмяніць пампезны ваенны парад у гэты нялёгкі для краіны і яе грамадзянаў час.

«Дзяржава ў каго толькі можна просіць крэдытаў, не аддаўшы яшчэ мільярдаў долараў папярэдніх пазыкаў, а ўлады недарэчна ладзяць дарагое мерапрыемства.

Ва ўмовах такога неабгрунтаванага шыкавання беларусы маюць поўнае маральнае права разам з ушанаваннем памяці загінулых за Беларусь выказаць свой пратэст кіраўніцтву краіны, якое працягвае жыць не па сродках і спавядае няхітры прынцып — залагодзіць народ відовішчамі», — гаворыцца ў заяве.

**ЗП**

# Расійцы прымяраюцца да «Беларуськалія»

Лукашэнка гатовы за $30 мільярдаў аддаць галоўную крыніцу валюты ў Беларусі.

«Пусцілі чуткі, што ўжо прададзена гэта прадпрыемства. Я наогул ні з кім не вёў перамоваў па продажы «Беларуськалія». Цана названая, грошы ёсць — прыязджай. Якія перамовы?» — заявіў Аляксандр Лукашэнка, тым самым распачаўшы новую хвалю дыскусіі, ці варта прадаваць найлепшае беларускае прадпрыемства. І зноў агучыў меркаваную цану — $30 мільярдаў.

### Жалезная цана

Адкуль узятая такая высокая ацэнка? Упершыню лічба прагучала з вуснаў старшыні Дзяржаўнага камітэта маёмасці Георгія Кузняцова ў лістападзе мінулага года. Кошт выставіла дзяржаўнае прадпрыемства «Інстытут нерухомасці і ацэнкі». Праўда, перадвыбарчыя 90 трыльёнаў рублёў цяпер складаюць $15—18 мільярдаў.

Але кіраўнік дзяржавы катэгарычны: «Яшчэ раз падкрэсліваю: ёсць грошы — на бочку, заўтра атрымаеце акцыі. На колькі прынесяце грошай, зыходзячы з $30 мільярдаў, столькі атрымаеце акцый. Пакуль іншага меркавання ў мяне няма», — заявіў Лукашэнка.

### Прынц з усходу

Тым не менш, магчымы купец сапраўды з'явіўся на гарызонце. Гэта расійскі алігарх Сулейман Керымаў. Ён ужо валодае «Уралкаліем» і хоча пазмагацца за сусветнае лідарства, пабудаваўшы ўласную калійную імперыю. Доля «Беларуськалія» на рынку складае каля 16—18%, і ягоная купля сканцэнтруе ў руках Керымава траціну сусветнага рынку.



PHOTO BYMEDIA.NET

Калій Салігорска — найбольшая крыніца валюты ў Беларусі.

У той жа час Беларусь аднамомантава атрымае вялікія грошы, але пры гэтым перастане атрымліваць прыбыткі штогод.

Які прыбытак дае «Беларуськалій»? Разабрацца ў гэтым няпроста.

Калі прааналізаваць прыбыткі «Беларуськалія» за апошні час, яны забяспечвалі каля 3% бюджэту краіны (без уліку падаткаў, якія плаціла прадпрыемства).

Сумнеўна, што названая цана застанецца апошняй. Цяперашняя магутнасць прадпрыемства складае 9 мільёнаў тон. Дагэтуль у свеце кошт вытворцы калію вылічваўся паводле прынцыпу каля $2,2-3 тысяч за тону магутнасці. Гэта значыцца, што рэальная цана «Беларуськалія» складае $20—27 мільярдаў. Вышэйшую за гэтую суму лічбу можна лічыць добрай цаной. Праўда, цэны на сельгаспрадукты ўстойліва растуць, разам з ростам насельніцтва планеты. Гэта значыць, што і прыбыткі ад калійнай вытворчасці ў будучыні павінны былі б расці.

### Спакуслівая небяспека

У кароткачасовай перспектыве магчымая ўгода выглядае надзвычай выгадная. Вялікая сума валюты выратуе фінансавую сістэму ад абвалу, але варта не забывацца, што фамільнае срэбра прадаецца толькі адзін раз. Па-другое, эканамічная залежнасць ад Расіі — патэнцыйная небяспека для незалежнасці Беларусі. «Белтрансгаз» ужо апынуўся ў руках Расіі. У выпадку продажу «Беларуськалія» ў дзяржаўнай уласнасці застануцца толькі нафтаперапрацоўчыя заводы.

### Дзядзька, дай мільярд!

Тым часам Беларусь спакушаюць «авансавым» мільярдам даляраў. Столькі Сулейман Керымаў нібыта гатовы заплаціць за кошт будучых паставак калійнай сыравіны. Гэтая сума пакрывае прыкладна паўгода здабычы «Беларуськалія».

Грошы былі названыя «макеeўскім мільярдам». Рэч у тым, што за пару дзён да навіны кіраўнік Адміністрацыі прэзідэнта Уладзімір Макей пахваліўся, што Беларусь прыцягвае крэдыт у $1 мільярд з крыніцы, «не звязанай з ЕўрАзЭС», але адмовіўся паведамляць хоць якія падрабязнасці.

**Яўген Васількоў**

**Афіцыйны чысты прыбытак «Беларуськалія»**

2010 год. 1,42 трыльёна рублёў = $476 мільёнаў

2009 год. 1,29 трыльёна рублёў = $462 мільёны

## Сярэдні заробак у Беларусі апусціўся ніжэй за ўкраінскі

Наш арыенцір цяпер — Малдова.

Беларусь знаходзіцца на ганебным апошнім месцы па ўзроўню сярэдняга заробку сярод суседзяў. Апошнія статыстычныя дадзеныя (за красавік) сведчаць, што беларусы зарабляюць 1 563 393 рублі. Нават па афіцыйным курсе даляра гэта ўсяго $314, нават не кажучы пра рэальны абменны. Пры пераліку на яго заробак «усыхае» да $240.

У гэты час ва Украіне, эканамічную сітуацыю ў якой год за годам ганяць беларускія СМІ, сярэдні заробак складае 2 533 грыўні. Па афіцыйным курсе гэта $318 — на чатыры даляры больш, чым у нашай краіне.

Параўнанне з іншымі суседзямі — напрыклад, Польшчай ці Латвіяй, выглядае зусім недарэчным. Адставанне складае 3-4 разы.

Цяпер наш найбліжэйшы «сусед» – гаротная Малдова, дзе сярэдні заробак на 2011 год запланаваны на ўзроўні $285.

**ЯВ**

## Даляр пайшоў у рост

Разрыў паміж афіцыйным і рынкавым курсам дасягнуў 20—30%.

Пасля двухтыднёвага стаяння на адным месцы курс даляра зноў папоўз угару. Курс продажу амерыканскай валюты на сайце Пракапові.ч дасягнуў 6300 рублёў. Цэннік у валютчыкаў крыху вышэйшы і складае ў сярэднім каля 6500 рублёў. Легальныя абменнікі ім не канкурэнты, бо не могуць задаволіць попыт беларусаў.

Курс продажу даляра ў абменніках Вільні складаў у панядзелак 6700 рублёў. Больш за тое, нават курс куплі амерыканскіх грошай у суседняй сталіцы складаў 5950 рублёў — адрозненне ад афіцыйнага курса нават тут дасягае 20%. Ра-зам з тым, курс даляра ў большасці інтэрнэт-крамаў для роўнага ліку складае 6 000 рублёў.

**ЯВ**

## Хлеб і макарона ў крэдыт

Белкаапсаюз дапамагае людзям дацягнуць да заробку.

Гандлёвыя прадпрыемствы Белкаапсаюза прапануюць набываць тавары ў крэдыт. І не толькі прамысловыя, але і харчовыя. На ўваходах у крамы сталі з'яўляцца адпаведныя абвесткі. Чытачка «НН» паведаміла, што ў яе краме харчовыя тавары прадаюць у крэдыт без працэнтаў з адтэрміноўкай на 1-4 месяцы, прамысловыя тавары — да 6 месяцаў пад стаўку рэфінансавання. Пакупнікоў пры гэтым цікавіць, ці варта давяраць такім крэдытам, зважаючы на імклівы рост цэнаў. Ці не давядзецца потым плаціць індэксацыю, калі цукар ці штосьці іншае зноў «пасмачнее» на 20—30%?

Па тлумачэнні мы звярнуліся ў прэс-службу Беларускага рэспубліканскага саюзу спажывецкіх таварыстваў. Там расказалі, што продаж тавараў у крэдыт практыкуецца досыць даўно. А ўмовы выдачы крэдытаў распрацоўваюцца на месцах самастойна. У прэс-службе супакоілі: індэксацыя цэнаў на тавары, набытыя ў крэдыт, не прадугледжваецца. Так, згодна з загадам Міністэрства гандлю № 36 ад 29 красавіка 1996 «Аб зацвярджэнні Інструкцыі аб парадку продажу тавараў у крэдыт», падобныя аперацыі адбываюцца па цэнах, якія дзейнічаюць на момант продажу. Наступнае змяненне цэнаў на прададзеныя ў крэдыт тавары не цягне за сабой пераразліку. У любым выпадку, параілі ў прэс-службе Белкаапсаюза, перш чым ўзяць крэдыт, трэба ўважліва азнаёміцца з умовамі яго атрымання і пагашэння, каб пазбегнуць у будучыні магчымых непрыемнасцяў.

**Сямён Печанко**

## У краіне перабоі з кефірам

Вытворчасць стала стратнай.

Мінчукі і жыхары некаторых іншых гарадоў заўважылі, што пры выдатным выбары малака ў крамах стала цяжкавата купіць кефір. Аказваецца, гэта звязана з дыспарытэтам цэнаў. З аднаго боку, у летнюю спёку попыт на кефір падвышаецца. Кіслы напой выдатна спаталяе смагу. З іншага боку, многія малаказаводы спынілі ці абмежавалі выпуск кефіру, бо яго вытворчасць стала стратнай пасля таго, як цэны на сацыяльна значныя тавары замарозілі рашэннем урада. Сярод тых, хто зменшыў выпуск кефіру, нават такі гігант, як «Савушкаў прадукт» з Брэста.

У суботу на Камароўцы кефір прысутнічаў у асартыменце лічаных малочных крамак. У той жа час цэны на яго застаюцца на ранейшым узроўні. Гэтак, абястлушчаны кефір вытворчасці Лідскага малаказавода прадаваўся за 1440 рублёў (літр), што роўна прыкладна 0,2 еўра паводле афіцыйнага курса.

**Сяргей Гезгала**

### Сцісла

• **Міжгароднія аўтобусы падаражэлі на 20%.** Гэта адбылося ўжо пасля таго, як Аляксандр Лукашэнка забараніў любое павышэнне цэнаў без яго ведама.

• **Венесуэльская нафта даражэйшая за расійскую ў 1,5 разу.** Белстат агучыў лічбы замежнага гандлю Беларусі за 2010 год. Вывілася, што адна тона венесуэльскай нафты каштавала ў сярэднім $638 з улікам дастаўкі, а расійскай — $431.

**Тур памыліўся.** Намеснік міністра эканомікі не меў рацыі, калі казаў пра ўзровень інфляцыі 20,2%. Паводле падлікаў Белстата, на 1 чэрвеня інфляцыя дасягнула 25,4%.

• **«Беларусбанк» падняў стаўкі па дэпазітах у рублях да 24%.** Гэта тычыцца як новапрыманых, так і раней прынятых укладаў, па якіх не парушана тэрміновасць. Стаўка ўсё адно нашмат меншая і за цяперашні тэмп дэвальвацыі рубля, і за ўзровень інфляцыі ў краіне. А вось стаўкі па ўкладах у валюце павялічаныя да 9% гадавых.

• **У Асіповічах збудавалі завод пральных парашкоў — канкурэнт «Бархіма».** Інвестыцыі склалі прыкладна $30 мільёнаў.

• **Курс на вегетарыянства.** З 8 чэрвеня максімальныя адпускныя цэны на свініну патушную павялічыліся на 10%.

**ЯВ**

# Турэмная геаграфія Беларусі

Трыццаць чалавек асуджаныя за Плошчу. Частка з іх ужо пераведзеная ў калоніі. Некаторыя чакаюць у СІЗА разгляду касацыйных скаргаў. Мікола Статкевіч і Аляксандр Атрошчанкаў папрасілі перавесці іх на зону яшчэ да разгляду скаргі. Мяркуецца, што ўмовы ў турме лепшыя, чым у следчых ізалятарах. Усяго палітвязні трапілі ў дзевяць розных калоній. Восем з іх знаходзяцца на ўсходзе Беларусі.




**Магілёў. Слаўгарадская шаша, п/а Вейна. Папраўчая калонія №15. Паштовы індэкс 213105.**

Тут сядзяць: Зміцер Ус, Зміцер Бандарэнка, Аляксандр Малчанаў, Яўген Сакрэт, Зміцер Буланаў.

Тут адбываў пакаранне амерыканскі адвакат Эмануіл Зэльцэр, які быў асуджаны ў цёмнай справе за камерцыйны шпіянаж. «Многа добрых людзей. Дапамагалі мне. Нават калі я галадаў, то падтрымлівалі мяне. Нават да таго, калі я быў без сілаў, то маглі за мяне заправіць ложак. Увогуле такое ўражанне, што там да 90% сядзіць тых, хто трапіў туды праз беззаконне. У Англіі ці ЗША яны б не былі ў турме». Разам з тым, Зэльцэр адзначаў, што беларуская судовая сістэма цалкам не адпавядае заходнім стандартам гуманнага абыходжання з вязнямі, адсутнічае якасная медыцынская дапамога. Гэта асабліва важна для Дзмітрыя Уса.

**Шклоўскі раён. Пасёлак Маладзёжны. Папраўчая калонія №17. Паштовы індэкс 213004.**

Тут сядзяць: Мікалай Статкевіч, Аляксандр Класкоўскі, Зміцер Новік, Уладзімір Лобан, Алег Гнедчык.

У Шклове сядзеў за ўдзел у незарэгістраванай арганізацыі «Партнёрства» Мікалай Астрэйка. Вось што ён згадвае. «На час майго зняволення калонія была перапоўненай. Нас было дзесьці 3-3,5 тысячы чалавек — гэта на 600—700 больш. Што гэта азначала? Прымацоўвалі трэція ярусы да шконак, чалавек мусіў уздымацца для сну на вышыню чатырох метраў. Часам ложкі выносілі ў калідоры. Перанаселенасць была ў тых атрадах, дзе патрабавалася больш рабочай сілы. Працавалі на тартаку, рабілі абутак, адзенне, сталярныя вырабы. У прынцыпе, гэта добра, бо час ідзе хутчэй. Нічога добрага пра ежу і пітво сказаць не магу, у СІЗА было лепей. Стаўленне аховы не вельмі зычлівае. Трапіць у карцар лёгка. У Шклове існавала такая методыка перавыхавання, як вулічны карцар. Калі людзей на дзень пакідалі ў вальеры, падобным да сабачага, без ежы і пітва, незалежна ад таго, ці снег ішоў, ці дождж».

**Наваполацк. Вуліца Тэхнічная,8. Папраўчая калонія №10. Паштовы індэкс 211440.**

Тут сядзяць: Мікіта Ліхавід, Алесь Кіркевіч. Чакае этапу туды: Андрэй Саннікаў.

У гэтай калоніі яшчэ не было палітычных вязняў. Але вядомыя людзі прайшлі праз гэтыя сцены. Напрыклад, мінскі экстрасэнс Вялекс Буяк. «Камандавалі там то блатныя, то «мянты», нейкі бардак быў. Гэта была самая «п'яная» зона, там не было праблемы дастаць алкаголь ці наркотыкі. Паколькі мяне гэта не цікавіла, я адтуль «збег», то бок быў пераведзены сваімі шляхамі. Тыя, што ідуць на повадзе ў адміністрацыі, — яны і правяць баль. Тым, хто не ладзіць з адміністрацыяй, кепска жывецца».

**Івацэвічы. «Воўчыя норы». А/с 20. Папраўчая калонія №22. Паштовы індэкс 225295.**

Тут сядзяць: Мікалай Аўтуховіч, Павел Вінаградаў, Алесь Квяткевіч, Эдуард Лобаў. Чакае этапу: Фёдар Мірзаянаў.

Былы гродзенскі прадпрымальнік Валеры Леванеўскі кажа, што там ёсць як станоўчыя, так і адмоўныя моманты. «Станоўчы аспект — там добрае паветра, калонія знаходзіцца ў лесе. Адмоўнае — там вельмі кепская вада, ад яе многія чэшуцца, яна для піцця практычна непрыдатная, бо там забалочаная мясцовасць. Там шмат камароў — летам ад іх немагчыма жыць. Зімой — вельмі холадна, там свая кацельня, начальства эканоміць і ў выніку ў памяшканнях вельмі холадна». У лістах да бацькі палітвязень Павел Вінаградаў якраз адзначае, што вымушаны спаць на вуліцы, бо каранцін на рамонце, і карміць камароў.

**Магілёў. Слаўгарадская шаша. Трэці кіламетр. Папраўчая калонія №19. Паштовы індэкс 212030.**

Тут сядзяць: Алег Федаркевіч, Уладзімір Хамічэнка.

«Адміністрацыя спачатку спрабавала са мной дамовіцца, потым запалохаць. Апошнія месяцы імкнуліся проста мяне кантраляваць. Хаця з тымі ж міліцыянтамі за грошы можна было лёгка дамовіцца, каб яны прынеслі мабільнік для званка дадому», — расказвае пра ўмовы гэтай калоніі маладафронтавец Арцём Дубскі.

**Бабруйск. Вуліца Сікорскага,1. Папраўчая калонія №2. Паштовы індэкс 213800.**




**Былы вязень Івацэвіцкай калоніі даслаў журналістам фота з Міколам Аўтуховічам, зробленае таемна пранесеным у зону мабільнікам. Нагадаем, 6 мая 2010 года Вярхоўны суд прызнаў ваўкавыскага прадпрымальніка Аўтуховіча вінаватым у перавозцы і захоўванні пяці патронаў да паляўнічай вінтоўкі і прысудзіў яго да 5 гадоў і 2 месяцаў калоніі строгага рэжыму. На думку праваабаронцаў, прысуд быў палітычна матываваным і з'яўляецца помстай Аўтуховічу за прынцыповасць і выкрыццё карупцыі сярод чынавенства.**

Тут сядзіць: Андрэй Пратасеня. Чакае этапу: Арцём Грыбко.

Моладзевы лідар Андрэй Кім кажа, што ўмовы ў гэтай калоніі неблагія. «У калоніі больш за 20 атрадаў па 100—200 чалавек. Ежа нядрэнная. Зона так званая «чырвоная». Гэта значыць, што крымінальныя законы там амаль не працуюць. Блатных, лічы, няма. Ёсць альбо пад кантролем адміністрацыі, альбо яны вывозяцца з калоніі. Ёсць праваслаўная царква, раз на тыдзень прыходзіць праваслаўны святар. Бясчынстваў з боку аховы няма. Працы няшмат. Хто не хоча, той не працуе. Акрамя палітычных, яны працуюць абавязкова. Я рабіў шаўроны для АМАПа. Плацілі 1800 рублёў за месяц».

**Пасёлак Віцьба. Віцебскі раён. Папраўчая калонія №3. Паштовы індэкс 2113000.**

Тут сядзіць: Аляксандр Атрошчанкаў.

Былы дэпутат палаты прадстаўнікоў Сяргей Скрабец успамінае сваё знаходжанне ў гэтай калоніі. «Пішу запіску, што патрэбны доктар, праз трое сутак прыходзіць жанчынка і пытаецца: «Чаго хацеў?» Кажу, што баліць жывот, але мне даюць таблетку ад прастуды, ад якой мне няма ніякай карысці. Свалачное стаўленне. Кожная дробязь. Напрыклад, трэба абрэзаць пазногці, а нажніцаў няма. У кожную секунду цябе могуць абшукаць. Ідзеш па зоне, цябе кліча нейкі сяржант, якому заманілася цябе праверыць. Могуць у любы момант цалкам раздзець. Табе пастаянна кажуць, што ты — г...о. Праз адно і тое ж акенца ў камеры, «кармушку», падаюць і ежу, і мачу для аналізу. Дык пра што тады можна гаварыць».

**Орша. Вуліца Леніна, 195а. Папраўчая калонія №8. Паштовы індэкс 211030.**

Тут сядзіць: Васіль Парфянкоў.

У гэтай турме інфаркт перанёс былы міністр і пасол Міхаіл Марыніч. Натуральна, што ніякіх станоўчых уражанняў. Яшчэ раней за Марыніча там сядзеў старшыня калгаса «Рассвет» Васіль Старавойтаў. «Дрэнныя там умовы, кормяць вельмі кепска. Тры разы на дзень адна груца. Калі пры Сталіну пабудавалі гэтую калонію, яна была разлічаная на 1,5 тысячы. Уявіце, што калонія была разлічаная на паўтары тысячы за Сталіным, а там цяпер 4600, во як наканапацілі!»

Лідар «Маладога фронту» Зміцер Дашкевіч усё яшчэ знаходзіцца ў СІЗА ў Жодзіне. Але ўжо вядома, што яго перавядуць у **Горкі**. **Вуліца Дабралюбава, 16. Папраўчая калонія № 9.** Там да Дашкевіча палітычныя вязні яшчэ не сядзелі.

**Зміцер Панкавец**

# Закрыты працэс

**У Гродне распачаўся суд над журналістам Пачобутам.**

14 чэрвеня суд Ленінскага раёна Гродна нагадваў узятую ў аблогу невялікую крэпасць. Ля галоўнага ўваходу дзяжурыла некалькі дзясяткаў чалавек, а ля чорнага — у разы больш спецназаўцаў. У судзе пачаўся разгляд справы журналіста Андрэя Пачобута, якога вінавацяць у зняваze Лукашэнкі і паклёпе на яго. Калегі ж лічаць, што так Пачобуту помсціць КДБ за рэзкія публікацыі пра метады спецслужбы.

Суд закрыты — з ініцыятывы абласной пракуратуры. Пачобут мяркуе, што так улада жадае схаваць ад адкрытага абмеркавання абсурднасць абвінавачванняў. Гэта ён сказаў жонцы ў часе спаткання ў СІЗА. Нават родных не пусцілі на парог судовай залы.

Маці журналіста змагла толькі на імгненне пабачыць сына, якога прывезлі ў суд у вялікім фургоне, поўным супрацоўнікаў міліцыі. Праваахоўнікі пашыхтаваліся ў шэраг, па якім Пачобута прагналі з фургона да чорнага ўваходу ў суд.

Першае пасяджэнне завяршылася ў 16.30. Выйшаў адвакат і паведаміў прысутным, што пракурор падаў хадайніцтва аб перапынку дзеля перакваліфікацыі абвінавачвання. Суд працягнецца 17 чэрвеня.

Родныя ўспрынялі навіну з надзеяй: магчыма, новыя абвінавачванні будуць лягчэйшымі. Апошні раз на палітычным працэсе перакваліфікоўвалі абвінавачванні ў выпадку грамадзянаў Расіі Брэуса і Гапонава, якіх судзілі за Плошчу. Тады яны ўрэшце абышліся штрафамі. Інакш, па артыкуле за знявагу Аляксандра Лукашэнкі і паклёпе на яго журналісту польскай Gazety Wyborczej і актывісту незалежнага Саюза палякаў у Беларусі Андрэю Пачобуту пагражала да 4 гадоў турмы.

Амаль два месяцы Пачобут правёў у Гродзенскім СІЗА. Крымінальную справу завялі 18 сакавіка за артыкулы ў польскай Gazeta Wyborcza, на сайце «Беларускі партызан» і ў ягоным блогу. 6 красавіка журналіста арыштавалі.

У Андрэя двое дзяцей. Сыну Яраславу — год, дачцэ Яні ў дзень суда споўнілася адзінаццаць. Каля суда яна моцна плакала.

**Алесь Пілецкі, СМ**




ЮЛІЯ ДАРАШКЕВІЧ

**Падтрымаць Пачобута прыйшлі актывісты Саюза палякаў.**



ЮЛІЯ ДАРАШКЕВІЧ

**Жонка Андрэя Пачобута Аксана засталася адна з дваімі дзецьмі.**

**З ПОШТЫ РЭДАКЦЫІ**

## Гладзячы пуза, жывот не накорміш

**Я напісаў ліст міністру Праляскоўскаму з заклікам адазваць пазоў на закрыццё «Нашай Нівы» і «Народнай Волі». На гэта я атрымаў адпіску ад першай намесніцы міністра спн.Ананіч. Я вымушаны быў напісаць ёй яшчэ раз. Вось што я напісаў.**

Міністэрства мае права, але не АБАВЯЗАНА прад'яўляць у суд іск аб спыненні выпуску сродку масавай інфармацыі. У гэтым выпадку яно бярэ на сябе функцыю цэнзара і пракурора, што не прадугледжана законам.

У гэтым кроку Міністэрства выяўляюцца гідкія рысы беларуса-службоўца: там, дзе можна і памаўчаць, ён гаўкне. Беларус амаль ніколі не праяўляе нацыянальнай, суседскай, прафесійнай, проста людскай салідарнасці з беларусам, а з скуры вылузуецца, выконваючы сервільна чужую ліхую волю. Гэтае самаздушэнне брыдкае і агіднае.

У гэтым кроку я асабіста бачу праяву паталагічнай нянавісці да беларускай мовы.

Крок па здушэнні «Нашай Нівы» і «Народнай Волі» падобны да разваг Дыягена Сінопскага, які, займаючыся рукаблудствам на плошчы, прыгаворваў: «От, каб гладзячы пуза, можна было наталіць голад».

Закрыццё газет не дадасць золата Нацбанку, не прынясе даляраў (еўра, юаняў) у банкі. Заможнасць — гэта вытворная ад функцыі свабоды.

Багата хто рагоча і плюецца. Такія, як мая 80-гадовая суседка, сагнутая, як ведзьма, з кіёчкам, кляне і брэша на ўладу. (А была ж лаяльным электаратам!)

Бог Вам у помач, спадарыня першая намесніца... «Не скуеш толькі дум ланцугамі».

**Мікалай Бусел, былы настаўнік, пенсіянер, вёска Дуброва Светлагорскага раёна**

P.S. Карысна таксама перачытаць падчас адзінага палітдня твор Казьмы Пруткова «Праект «О введеніі единомыслія в Россіі».

## Бабруйск бароніць «Нашу Ніву» і «Народную Волю»

З паведамленняў СМІ мы, бабруйскія жыхары, даведаліся, што Міністэрства інфармацыі даслала ў Вышэйшы гаспадарчы суд пазоўны ліст аб закрыцці газет «Народная Воля» і «Наша Ніва».

Мы — даўнія чытачы гэтых выданняў. Спроба закрыць гэтыя СМІ груба парушае нашы канстытуцыйныя правы — у прыватнасці, права на атрыманне, захаванне і пашырэнне поўнай, праўдзівай і своечасовай інфармацыі (артыкул 34 Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь). Лічым, што такія дзеянні Міністэрства інфармацыі замахваюцца на гарантаваныя Канстытуцыяй РБ свабоду меркаванняў, перакананняў і права на іх свабоднае выказванне.

Просім Міністэрства інфармацыі адазваць пазовы пра спыненне выпуску газет «Народная Воля» і «Наша Ніва». Адказ на зварот просім даць у парадку і ў тэрміны згодна з законам «Аб зваротах грамадзян».

Бузінаеў В.С.
Кавалёў В.Г.
Дабравольскі В.І.
Драпеза І.Л.
Шобін А.В.
Лукін В.С.
Лаўроў В.А.
Качан І.М.
Серафімовіч В.Н.
Філіпчык В.В.
Лебедзева С.В.
Зубрыкава Я.М.
Кавалько М.Г.
Маліноўскі В.Л.
Лацінскі С.В.
Севасцьянава Н.В.
Мароз З.Г.
Лабачоў Г.У.
Кірава Л.А. і яшчэ 45 подпісаў.

## Падтрымаем «Нашу Ніву» і «Народную Волю»

Беларуская асацыяцыя журналістаў склала прыкладны ўзор звароту ў Мінінфармацыі, які можа накіраваць у гэтае ведамства любы грамадзянін Беларусі — чытач газеты, занепакоены рашэннем Мінінфарма закрыць «Нашу Ніву» і «Народную Волю».

Звароты можна накіроўваць заказным лістом альбо пакінуць у кабінеце № 519 Міністэрства інфармацыі.

Прыкладны ўзор самага простага звароту:

*Міністру інфармацыі Рэспублікі Беларусь*
*Праляскоўскаму Алегу Вітольдавічу*
*220004, г. Мінск, пр. Пераможцаў, 11.*
*Прозвішча, імя, імя па бацьку, адрэс пра месца жыхарства і (альбо) працы (вучобы)*

*Зварот*

*З паведамленняў СМІ я, (прозвішча, імя, імя па бацьку), даведаўся, што Міністэрства інфармацыі звярнулася ў суд з зыскам пра закрыццё газет «Наша Ніва» і «Народная Воля».*

*Я з'яўляюся даўнім чытачом указаных выданняў. Спроба закрыць гэтыя СМІ груба парушае мае канстытуцыйныя правы — у прыватнасці, права на атрыманне, захаванне і распаўсюд поўнай, праўдзівай і своечасовай інфармацыі (арт. 34 Канстытуцыі РБ). Лічу, што такія дзеянні Міністэрства інфармацыі замахваюцца і на гарантаваныя Канстытуцыяй РБ свабоду меркаванняў, перакананняў і іх свабоднае выказванне.*

*Прашу адклікаць іск пра спыненне выпуску газет «Наша Ніва» і «Народная Воля».*

*Адказ на ўказаны зварот прашу даць у парадку і ў тэрміны, прадугледжаныя законам «Аб зваротах грамадзян».*

*Дата, подпіс*

**Копіі зваротаў прышліце ў Рэдакцыю, каб мы маглі выкарыстаць іх у судзе.**

## Што рабіць чытачам?

Каб надалей атрымліваць газету, дашліце свае адрасы ў Рэдакцыю.

1. Як і ў 2005 годзе, калі газету выганялі з «Белсаюздруку» і «Белпошты», просім усіх, хто хоча і надалей чытаць «Нашу Ніву», паведаміць нам свае паштовыя адрасы. Кантакты тых, хто падпісваўся праз Рэдакцыю, мы маем. Просім тэрмінова даслаць свае кантакты тых, хто падпісваўся праз «Белпошту» або купляў газету ў кіёсках.

**Паведаміце Вашы адрасы можна праз электронную пошту dastauka@nn.by. Або праз тэлефоны: (017) 284-73-29, (029) 260-78-32, (029) 618-54-84, Skype: nashaniva. Або лістом на адрас: а/с 537, Мінск, 220050.**

Гэтыя ж кантакты — для сувязі з Рэдакцыяй па ўсіх пытаннях, звязаных з лёсам «НН».

2. **Чытайце сайт nn.by.** Калі раптам сайт nn.by стане недаступны, чытайце сайт **nnby.eu**, які прыйдзе яму на змену ў выпадку патрэбы.

# Трэнер Захараў разбіў «Бэнтлі» за $190 тысяч

Працяг са старонкі 1.

Відавочцы сцвярджалі, што за рулём «Бэнтлі» сядзеў мужчына.

Аднак сяброўка Міхаіла Захарава Марына заявіла журналістам «Салідарнасці» ў панядзелак: за рулём была я. А Міхаіл Захараў, сказала яна, прыехаў на месца ДТЗ ужо пасля сутыкнення «Бэнтлі» з «Лексусам», калі яна яму пазваніла. І гэта, маўляў, спарадзіла чуткі, што ён вінаваты ў ДТЗ.

Аднак ДАІ распаўсюдзіла іншую інфармацыю: за рулём «Бэнтлі» знаходзіўся мужчына 1962 года нараджэння. ДАІ традыцыйна не падае імёнаў удзельнікаў ДТЗ.

Журналісты выдання «Ежедневнік» пайшлі далей: яны здабылі дакументы ДАІ, якія ўказваюць, што за рулём «Бэнтлі-Кантыненталя» быў Міхаіл Захараў. Прычым, «па знешніх прыкметах» ён быў п’яны. Але ад медагляду адмовіўся — і меў права: згодна з законам, абавязковы медагляд кіроўцы ажыццяўляецца толькі ў выпадках, калі пры аварыі ёсць пацярпелыя. Аднак Кодэкс аб адміністрацыйных правапарушэннях адмову ад медагляду кваліфікуе таксама як кіраванне транспартам у стане ап’янення.

У дачыненні да Захарава былі складзеныя два адміністрацыйныя пратаколы — па арт. 18.16 п.1 за кіраванне транспартным сродкам у стане ап’янення і адмову ад медычнай праверкі і па арт. 18.22 п.5 — за, уласна, парушэнне правілаў дарожнага руху. Яму пагражае пазбаўленне правоў на кіраванне аўто на тры гады.

Робіцца зразумела, піша «Ежедневнік», чаму дзяўчына кінулася грудзямі на амбразуру.

Сяброўка таксама ўдакладніла, што серабрысты «Бэнтлі» — яе, а ў самога Захарава — чорны. Яна казала, што аўто ёй падарылі, «але зрабіў гэта не Міхаіл Міхайлавіч».

У Беларусі такіх дарагіх аўто адзінкі. Bentley Continental GT належыць да апошняга абноўленага мадэльнага шэрагу кампаніі. Выпуск такіх аўтамабіляў пачаўся толькі вясной 2011 года. У Еўропе новае такое аўто базавай камплектацыі каштуе 154000 еўра, у ЗША — 189 900 даляраў.

Колькі ж зарабляе Міхаіл Захараў, раз можа сабе дазволіць аўто такога кшталту? Ускосна пра заробкі хакеістаў у Беларусі сказаў дырэктар футбольнага клуба БАТЭ Анатоль Капскі. Ён наракаў на тое, што «другасны хакеіст у мінскім «Дынама» атрымлівае нашмат больш, чым наш галоўны трэнер». У працяг прызнаўся, што трэнер БАТЭ Віктар Ганчарэнка зарабляе $15 тысяч у месяц.

Так што, як жартуюць на інтэрнэт-форумах, Захараву, відаць, каб сабраць 190 тысяч даляраў, давялося «паэканоміць пару месяцаў».

У Мінску гавораць, што Захараў — часты госць начных клубаў.

**Сяргей Мікулевіч**



TUT.BY

**Bentley Continental GT**

належыць да апошняга абноўленага мадэльнага шэрагу кампаніі. Выпуск такіх аўто пачаўся вясной 2011 года. У Еўропе новая машына базавай камплектацыі каштуе 154000 еўра, у ЗША — 189 900 даляраў.



PHOTO.BYMEDIA.NET

**Міхаіл Захараў**

нар. у 1962, Усць-Каменагорск, Казахстан — у мінулым савецкі і беларускі хакеіст. У 2003—2005 і 2009—2010 быў галоўным трэнерам нацыянальнай зборнай Беларусі. Цяпер галоўны трэнер мінскага хакейнага клуба «Юнацтва» і другі трэнер нацыянальнай зборнай Украіны. Заслужаны трэнер Беларусі.

## Скандалы вакол Захарава

Аварыя — не першая гучная гісторыя, у якую трапіў Міхаіл Захараў. 30 мая 1998 года атрымаў агнястрэльнае раненне на начной дыскатэцы «Макс-шоу». Паводле афіцыйнай версіі, злачынца, які страляў, здолеў уцячы ад аховы. Пазней паведамлялася, што гэта быў нейкі Аляксандр Логінаў, крымінальнік, які «кантраляваў» дыскатэку. Праўда, удакладнялася, што пра крымінальнага «аўтарытэта» з такім імем раней ніхто не чуў.

## Сцісла

• **У Анталіі памёр беларускі турыст**. У канцы мая сямейная пара з Гродна адпачывала на курорце ў Аланы, правінцыі Анталіі. Напярэдадні ад’езду дадому 44-гадоваму мужчыну зрабілася кепска. Дзень ён быў у коме і памёр. Жонка абвяргае версію, што муж атруціўся няякасным алкаголем: яны елі і пілі адно і тое ж. У мужчыны былі праблемы з сэрцам.

• **Пошукі зніклых беларускіх альпіністаў спыняюцца.** Ад 8 мая няма сувязі з двума спрактыкаванымі беларускімі альпіністамі — Мікалаем Бандалетам і Сяргеем Белавусам. Яны скаралі адну з самых недаступных вяршыняў свету — Тулагі, вышынёй 7.029 метраў у Непале. На вышыні 6300 м была знойдзеная палатка з рэчамі і ланцужок слядоў, аднак саміх альпіністаў дагэтуль не знайшлі. Наземныя пошукі не ўдалося арганізаваць з-за дрэннага надвор’я. А на арганізацыю вылетаў верталёта няма сродкаў.

• **Махлярства на 77, 4 млн у Малінаўцы.** Распачатая крымінальная справа ў дачыненні да намесніка дырэктара свідравальнай кампаніі, якая змахлявала падчас прац па добраўпарадкаванні сталічных мікраraёнаў «Малінаўка-8» і «Малінаўка-9». Паводле дадзеных аператыўных службаў, намеснік дырэктара ТАА пры выкананні будаўніча-мантажных работ уключыў у акты здачы-прыёмкі выкананых работ найменне і цану прац па перавозцы грунту. Гэтыя работы выкананыя не былі, а ТАА атрымала незаконнае ўзнагароджанне за працу ў памеры 77,4 мільёна рублёў.

• **На Сляпянскім канале патануў падлетак.** Пра гэта «Нашай Ніве» паведаміў чытач. Купанне на ўсім канале забаронена, але людзі ў спёку часта парушаюць забарону.

• **На Мінскім моры перакулілася яхта з людзьмі.** Адбылося гэта ўначы паблізу Ратамкі. Рулявы не справіўся з кіраваннем, і яхта перавярнулася. У ёй знаходзіліся пяцёра чалавек: трое мужчын і дзве дзяўчыны. Самы малады з хлопцаў змог самастойна дабрацца да берага. Астатнія засталіся сядзець на дне перавернутага судна. З берага малады чалавек выклікаў экстраную службу МНС. Ратавальнікі на двух лодках даставілі пасажыраў яхты на бераг.

• **Спарадкавала: Пенсіянерка вырашыла навесці чысціню і спаліла тры хлявы і адну лазню.** У вёсцы Парэчча Акцябрскага раёна Гомельскай вобласці пачаўся пажар. Як высветлілася, жанчына вырашыла прыбрацца і спаліла туалетную паперу ў вядры з драўляным дном. Пенсіянерка не ўпэўнілася ў тым, што папера не тлее, і паставіла вядро ў прыбіральню. У выніку — у вёсцы стала на адну прыбіральню меней, а трое гаспадароў вымушаны будуць будаваць новы хлеў і лазню.

**Пад выглядам рамонту скралі ванну.** Зламыснікі скарысталіся незачыненымі дзвярыма і адсутнасцю гаспадыні. Трапіўшы ў кватэру, яны з грукатам прыняліся дэмантаваць ванну. На пытанні суседзяў адказвалі ўпэўнена і проста: у кватэры пачынаецца рамонт. Адна з суседак «рамонтнікам» нават у дапамогу дала молат. Дэмантаж ванны заняў некалькі гадзін: доўга правалэндаліся з трубамі. Затым ванну знеслі з чацвёртага паверха, пасля чаго наўпрост накіраваліся ў бліжэйшы пункт прыёму металалому. Атрыманыя сорак тысяч рублёў адразу прапілі.

• **Выпадак з гусаком.** Кіроўца «Фальксвагена-Кэдзі» ў вёсцы Путрышкі Гродзенскага раёна стаптаў на дарозе гусака і паехаў далей. У гэты момант да свайго падворка пад’язджаў гаспадар птушак. Ён кінуўся ў пагоню, спыніў і прапанаваў аплаціць шкоду, аднак пачуў у адказ адмову. Тады гаспадар гусака выклікаў ДАІ. Выпадак быў аформлены як дарожна-транспартнае здарэнне.

**У Беларусі сталі меней красці.** За 5 месяцаў 2011 года ў краіне зарэгістравана 24,2 тысячы крадзяжоў маёмасці, што на 20,7% менш, чым за аналагічны перыяд 2010 года. Падазроныя ўстаноўлены амаль у 70% выпадкаў. Больш за 40% усіх крадзяжоў маёмасці было ўчынена ў сельскай мясцовасці.

**СМ**

# Беларуская салідарнасць

Штрафы ўдзельнікам «Стоп-бензін» сабралі за дзень.

7 чэрвеня аўтамабілісты блакавалі сталічны праспект Незалежнасці на некалькі гадзін. Сотні гледачоў на тратуарах віталі акцыю воплескамі і воклічамі. Вось іх і хапаў спецназ.

Па ўказанні намесніка начальніка ГУУС Мінгарвыканкама Ігара Яўсеева былі затрыманыя чатыры асобы. Ноч яны правялі на Акрэсціна, а назаўтра ў судзе атрымалі штрафы па адміністратыўным артыкуле за «парушэнне парадку пікетавання».

Павел Груздзіловіч і Зміцер Кавалгін былі аштрафаваныя на 700 тыс. рублёў (20 базавых велічыняў), а Аляксандр Рэдзькін і Алеся Макась — на 525 тысяч (15 базавых).

Людзі адгукнуліся хваляй салідарнасці і сабралі пацярпелым грошы. Іх пералічвалі на рахункі, апублікаваныя на сайце грамадскай ініцыятывы «За Аўто», прыносілі, пазваніўшы на пазначаныя там тэлефонныя нумары.

Агульная сума штрафаў склала 2 млн 450 тыс. рублёў. А людзі сабралі за суткі, паводле словаў кіраўніка «За Аўто» Арцёма Шаркова, удвая болей — каля 5,2 млн.

З аплаты штрафаў актывісты «За Аўто» зладзілі шоу. Сто тысяч рублёў ад гэтай сумы яны вырашылі аплаціць 10, 20 і 50-рублёўкамі. Грашовая дробязь заважыла на восем кілаграмаў. Касіркі ў банку лічылі яе 45 хвілін.

Мільён з тых грошай, што засталіся пасля выплаты судовых спагнанняў, арганізатары пералічылі на рахунак дзіцячага дома, а рэшту паклалі ў фонд будучых штрафаў. Бо спыняцца на гэтай акцыі «Стоп-бензін» яны не збіраюцца.

Тым часам ДАІ пагражае прыцягнуць да адказнасці кожнага ўдзельніка несанкцыянаванай акцыі аўтамабілістаў, чый нумар удалося зафіксаваць. З'явілася інфармацыя, што іх выклікаюць на «размовы». Праўда, у чым можна звінаваціць чалавека, які спыніўся з «аварыйкай» на дарозе? Артыкула «паломка машыны» ў адміністратыўным кодэксе пакуль няма.

**Сяргей Мікулевіч**

# Добры цар

Акцыя «Стоп-бензін» змусіла Аляксандра Лукашэнку знізіць цэны на паліва.

Асаблівасці беларускага цэнаўтварэння — па асабістым вусным загадзе Аляксандра Лукашэнкі канцэрн «Белнафтахім» зменшыў кошт паліва. «Давайце дамовімся, што паліва з заўтрашняй раніцы будзе не 5200, не 5100, а максімум 4500 рублёў», — сказаў кіраўнік дзяржавы на наступны дзень пасля акцыі «Стоп-бензін».

Лукашэнка паабяцаў, што ў далейшым цана на бензін не будзе расці рэзка, а будзе прывязаная да курса даляра. «Калі ў нас будзе курс 4500 — бензін такім і застанецца, калі 5000 — значыцца, да 1 студзеня будзеце працаваць па цэнаўтварэнні, у квартал дадаючы па 2-3%».

«Белнафтахім» адрэагаваў аператыўна. У 0:00 9 чэрвеня на табло заправак загарэліся новыя лічбы.

Кіраўніцтва «Белнафтахіма» яшчэ падчас папярэдняга росту цэнаў на паліва прасіла ўсталяваць цэны на ўзроўні 5500–6000 рублёў за літр паліва. Меркавалася, што падаражанне складзе 45%. Прадстаўнікі Міністэрства эканомікі не дазволілі падняць цэны так высока, прапанаваўшы спыніцца на ўзроўні 30%. Каб праз тыдзень-два ўзняць кошт паліва яшчэ на 15%, да чаканых 6000 рублёў за літр.

Пакуль невядома, зніжэнне цаны адбудзецца за кошт змяншэння акцызаў (у такім выпадку грошы згубіць бюджэт) альбо непасрэдна за кошт прыбытку «Белнафтахіма». Пры апошнім варыянце нафтаперапрацоўка стане для канцэрна стратнай.

У любым выпадку зніжэнне цаны можа прывесці да дэфіцыту паліва ва ўсёй Беларусі.

**ЯВ**

| Від паліва | 01.01.2011 | 07—08.06.2011 | 09.06.2011 | Працэнт росту цэн |
|---|---|---|---|---|
| Дызель | 2270 | 5100 | 4450 | 96% |
| А-92 | 2520 | 5100 | 4200 | 67% |




1 ліпеня здарыцца рэвалюцыйная перамена ў звычках беларусаў. З пераходам на расійскія мыты патрыманыя аўтамабілі з Еўропы стануць недаступнымі сярэдняму класу.

# «Стоп-крэдыт»: ільготнае крэдытаванне жылля згортваецца

Хто не паспеў да 1 чэрвеня — той спазніўся надоўга.

«Беларусбанк» з пачатку чэрвеня прыпыніў выдачу льготных крэдытаў на будаўніцтва жылля для асобаў, якія маюць патрэбу ў паляпшэнні жыллёвых умоў. Шанцы на такі крэдыт пакуль застаюцца толькі ў шматдзетных сем'яў і жыхароў населеных пунктаў, у якіх пражываюць менш за 50 тысяч чалавек.

«Прынятае рашэнне, згодна з якім спісы льготнага крэдытавання, зацверджаныя з 1 чэрвеня 2011 года, а таксама зацверджаныя да гэтай даты пры адсутнасці неабходных дакументаў на 31 мая 2011 года, да крэдытавання не прымаюцца», — паведамляюць у «Беларусбанку». Акрамя таго, з 1 чэрвеня 2011 года спыняецца адкрыццё новых крэдытных ліній арганізацыям, якія выконваюць функцыі замоўцаў па будаўніцтве.

Раней банк выдаваў льготныя крэдыты па стаўцы ад 1% да 5% у залежнасці ад катэгорыі ільготнікаў.

Цяпер ахвотным будаваць ці купляць кватэру застаецца браць грошы па камерцыйных стаўках. Напрыклад, «Белаграпрамбанк» прапануе крэдыт пад 24—26% гадавых на тэрмін да 20 гадоў.

**ЯВ**

IN MEMORIAM

# Палітолаг Віталь Сіліцкі памёр у 38 гадоў

«Зрабіце ўсё, каб мае ідэі жылі».

Гэта здарылася 11 чэрвеня. 38-гадовы Віталь Сіліцкі больш за год змагаўся з ракам (ныркі).

Перанёс аперацыю — яму выдалілі нырку, але, на жаль, пухліна дала метастазы ў лёгкія.

Яго назіралі дактары клінікі ў Бараўлянах. Сябры забяспечылі яго найлепшымі лекамі. На жаль, хваробу выявілі на позняй стадыі, а метастазы былі знойдзеныя ў абодвух лёгкіх адначасова. Іх развіццё можна было толькі замарудзіць, але немагчыма было спыніць. З дапамогай Офіса за дэмакратычную Беларусь (Брусэль) Сіліцкі нейкі час лекаваўся ў Бельгіі. Калі стала ясна, што ніякія зацверджаныя лекі не дзейнічаюць, ён нейкі час прымаў эксперыментальныя сродкі, што праходзяць апрабацыю ў ЕС.

Сіліцкі прыняў рашэнне вярнуцца ў Беларусь з Бельгіі, калі яго стан здароўя стаў імкліва горшаць.

Апошнія тыдні ён трымаўся на абязбольваючых, а апошнія дні рэдка прыходзіў у прытомнасць.

За некалькі гадзін да адыходу яго чарговы, апошні раз наведаў праваслаўны святар. Па ягонай волі, гэта быў беларускамоўны святар.

Віталь Сіліцкі быў дырэктарам Беларускага інстытута стратэгічных даследаванняў. Гэта быў выдатны палітолаг з бліскучай адукацыяй і сусветным рэнамэ.

Як грамадзянін ён быў бясконца адданы Беларусі і беларускасці.

У Беларускім інстытуце стратэгічных даследаванняў яго зменяць Дзяніс Мельянцоў і Аляксей Пікулік.

У Віталя засталіся бацькі і брат.

У часе адной з апошніх сустрэч з сябрамі Сіліцкі прасіў перадаць актывістам апазіцыі, каб яны ішлі да людзей, ішлі на прадпрыемствы і неслі праўду пра сітуацыю ў краіне і шлях выхаду з яе.



Віталя Сіліцкага пахавалі 13 чэрвеня на Каладзішчанскіх могілках пад Мінскам.

«Я паміраю. А вы зрабіце ўсё, каб жылі мае ідэі», — сказаў ён сябрам у адзін з апошніх дзён.

**Рэд.**

# Васіль Храмцоў

Жыццё Васіля Храмцова, лідара беларускага руху Наваполацка, імгненна, бязлітасна спаліла злая хвароба, якая запанавала ў Беларусі пасля Чарнобыля.

Васіль Храмцоў нарадзіўся 16 снежня 1965 г. у Наваполацку. Тут працаваў на заводзе «Вымяральнік».

Ён быў сузаснавальнікам БНФ і прызнаным фронтаўскім лідарам.

Адзін з арганізатараў першага беларускамоўнага класа ў Наваполацку. Вазіў перададзеныя беларускай дыяспарай лекі ў Чарнобыльскую зону.

Васіль жыў справай адраджэння беларускае культуры. Ён стварыў у Наваполацку супольнасць «Усяслаў Чарадзей». Агульнабеларускімі былі Купаллі, ладжаныя ў азёрным краі Полаччыны, з неадменнаю цэнтральнаю постаццю Васіля Храмцова — Князя-Купаліша, знаўцы абраду, аўтарытэтнага лідара для моладзі, якая цягнулася да нацыянальных каштоўнасцяў. Ён вадзіў маладых беларусаў у вандроўкі па гістарычнай Полаччыне...

Самыя шчырыя спачуванні жонцы Алене, дочкам Ружане і Яне, усім родным і блізкім Васіля ў гэтай незваротнай страце.

Калі такія людзі адыходзяць, мы ўсведамляем, на кім трымаецца Беларусь.

**Вінцук Вячорка, Сяржук Сокалаў-Воюш**



# Што не падаражэла пасля дэвальвацыі?

**Топ-5 тавараў і паслуг, цэны якіх пакуль што не выраслі.**

Бензін і тэхніка, садавіна і гародніна, памперсы, зубная паста... Каб пералічыць усё, што падаражэла за апошнія месяц-два, не хопіць пальцаў на руках і на нагах.

Але сярод змроку можна пашукаць кропліну аптымізму. «Наша Ніва» прапануе топ-5 тавараў і паслуг, цэны якіх не павялічыліся. Прынамсі, пакуль што.

### 1. Камунальныя паслугі

Цэны на паслугі ЖКГ застаюцца на ўзроўні, усталяваным сёлета ў лютым. Але ўрад не выключае магчымасці яшчэ аднаго павелічэння коштаў.

«Думаю, у гэтым годзе яны павялічацца на 5–7 даляраў, хоць не выключана, што гэтае павелічэнне будзе меншым», — заяўляў віцэ-прэм'ер Беларусі Анатоль Калінін 8 красавіка. Тады ён меў на ўвазе стары курс амерыканскай валюты.

### 2. Гарадскі транспарт

Праезд у аўтобусах, тралейбусах, трамваях па-ранейшаму складае 850 рублёў у сталіцы. У раённых і абласных цэнтрах — 750 рублёў. Цэны могуць быць павялічаныя па рашэнні мясцовых уладаў, але тыя не спяшаюцца засмучаць пасажыраў, хоць установы накшталт «Мінсктранса» просяць аб падаражанні кожны месяц.

Таксі і маршруткі ўжо паспелі падняць свае цэны. Іх логіка зразумелая — аўтамабільнае паліва за апошні час стала даражэйшым на 40%. Але кошт талонаў і жэтонаў наўрад ці вырасце так шмат. Імаверны варыянт — 1000 рублёў за праезд у сталіцы і 900 рублёў у іншых гарадах.

### 3. Навучанне

Ні дзіцячыя садкі, ні ВНУ пакуль што не ўвялі новую плату. За знаходжанне дзіцяці ў садку бацькі плацяць каля 60 тысяч у месяц. Раней гэта было эквівалентна $20, цяпер — фактычна $10. Грошы кампенсуюць частку дзіцячага харчавання, рэшту плаціць дзяржава.

Кошт навучання ў ВНУ пакуль што не змяніўся, але можа вырасці разам з ростам заробкаў. Новыя лічбы могуць быць агучаныя бліжэй да пачатку навучальнага года.

### 4. Інтэрнэт

Развіццё інфармацыйных тэхналогій не спыняе нават дэвальвацыя. Інтэрнэт-правайдары не абвяшчалі падаражанняў. Напрыклад, безлімітны доступ да сеціва ад «Белтэлекома» з хуткасцю да 1 Мбіт/с усё яшчэ каштуе 54 тысячы рублёў. Правайдары адмовіліся ад нечаканых падарункаў абанентам — напрыклад, павелічэння хуткасці ўдвая, — але і не пагаршаюць умовы тарыфных планаў.

### 5. Заробкі

Хоць гэта і не тавар і не паслуга, але заробкі — галоўнае, што не павялічылася ў Беларусі пасля дэвальвацыі. Адзіны крок у гэтым накірунку — індэксацыя грошай для бюджэтнікаў. «Ажно» на 40 тысяч у месяц (не больш за $8).

**Яўген Васількоў**

# НІСЭПД: У краіне фармуецца антылукашэнкаўская большасць

**Большасць беларусаў не вераць у афіцыйную версію тэракта і лічаць улады вінаватымі ў валютным крызісе.**

Пра гэта сведчаць вынікі апытання, праведзенага Нацыянальным інстытутам сацыяльна-эканамічных і палітычных даследаванняў (Літва) 10–20 мая, яшчэ перад афіцыйнай дэвальвацыяй рубля.

50,6% апытаных заявілі, што праблемы з валютай — вынік няправільнай эканамічнай палітыкі ўладаў. Пры гэтым 26% бачаць прычыну праблем у сусветным эканамічным крызісе, а 13% бачаць у гэтым вынік дзейнасці сілаў, варожых Беларусі.

Трэба адзначыць, што за рынкавыя рэформы выказаліся 66,6% апытаных — гэта рэкордна высокі паказчык за ўсе гады апытанняў.

Знізіўся давер да ўладаў і па ўсіх іншых кірунках. Гэтак, 54% апытаных не вераць у афіцыйную версію тэракта ў мінскім метро 11 красавіка. Давяраюць афіцыйнай версіі пра тэрарыста-адзіночку толькі 29% апытаных.

28% апытаных лічаць асуджаных за Плошчу «зусім не вінаватымі», яшчэ 25% — вінаватымі, але нязначна. Пры гэтым толькі 7% заявілі, што прысуды ім «занадта мяккія», а 25% — што прысуды адпавядаюць віне.

Як паведамляе сайт Інстытута, было апытана 1511 чалавек, памылка рэпрэзентатыўнасці можа складаць 3%.

З апытанняў НІСЭПД вынікае, што ў 2011 годзе ў краіне фармуецца «антылукашэнкаўская большасць». 50–55% апытаных па розных тэмах трымаюцца пазіцый, крытычных да ўлады. І прыкладна 30–35% па-ранейшаму ўладзе давяраюць.

**Мікола Бугай**




PHOTO.BYMEDIA.NET

**У адказ на рост цэнаў на бензін аўтамабілісты 7 чэрвеня заблакавалі цэнтр сталіцы.**

## «Энвілу» зачынілі, а пасля перадумалі

**Там вучылася сяброўка падазраванага ў тэракце ў метро.**

Пра закрыццё прыватнага жаночага інстытута паведаміла агенцтва «Інтэрфакс». Афіцыйна — за выяўленне парушэнняў тэхнікі бяспекі і таму што арэндадаўца разарваў з «Энвілай» дамову на арэнду (6 000 квадратных метраў). Аднак журналісты адзначаюць, што менавіта там вучылася сяброўка падазраванага ў тэракце.

Рэктар ВНУ Ларыса Чарапанава пацвердзіла, што 6 чэрвеня на калегіі Міністэрства адукацыі была прынята пастанова, у адпаведнасці з якой ад 2011 года «Энвіла» спыняе набор абітурыентак і будзе рэарганізаваная. Але пасля апублікавання інфармацыі пра гэта, 10 чэрвеня, ёй патэлефанавалі з Мінадукацыі і паабяцалі, што ўступная кампанія ў ВНУ пройдзе як звычайна. Цяпер рэктар «Энвілы» чакае афіцыйны дакумент, у якім замацавана гэта рашэнне.

**Сяргей Гезгала**

# Чаргінец хоча перапісаць школьныя падручнікі літаратуры

**Старшыня праўладнага Саюза пісьменнікаў гатовы замяніць праграмныя тэксты.**

У інтэрв'ю газеце «ЛіМ» ён раскрытыкаваў творы са школьных падручнікаў. «На з'ездзе [Саюза пісьменнікаў у кастрычніку 2011] мы не абыдзем такое пытанне, як падрыхтоўка падручнікаў і дапаможнікаў па літаратуры і мове для школ, — заявіў генерал. — Іншы раз укладальнікі іх спрабуюць увесці такія творы і ўрыўкі з твораў, якія, скажам, не адпавядаюць духу часу, ідуць насуперак нацыянальнай ідэі нашай краіны, падрываюць сапраўдны дух патрыятызму. Можа, яны не разумеюць да канца таго, што робяць? Трэба, пэўна, калегіяльна абмяркоўваць такія дапаможнікі і падручнікі з запрашэннем аўтараў».

Складаннем школьных праграм, на аснове якіх выдаюцца падручнікі, займаюцца спецыялісты Нацыянальнага інстытута адукацыі.

У 2007 годзе ўжо адбыўся перагляд школьнай праграмы па беларускай літаратуры. Тады са спісу аўтараў для вывучэння і пазакласнага чытання былі выкінуты Святлана Алексіевіч, Міхась Скобла, Уладзімір Някляеў і іншыя. Адказнасць на сябе ўзяў Аляксандр Лукашэнка. «Са школьных праграм па маёй ініцыятыве былі выкінутыя ўсе нацыяналісты, так званыя пісьменнікі».

А ўжо праз год генерал Чаргінец «зарэзаў» выхад за дзяржсродкі шэрагу выданняў, падрыхтаваных Інстытутам літаратуры АН. «Група людзей, што негатыўна ставіцца да дзяржавы і ўлады, прапанавала ўнесці ў пералік сацыяльназначнай літаратуры 6-ці ці 8-томнік Ларысы Геніюш, фашысцкага прыхвасня Арсенневу і сямітомнік Законнікава, у якога і двух тамоў не назбіраецца. Калі толькі ўзяць яго больш за 120 публікацый у апазіцыйнай прэсе, скіраваных на падрыў улады, дзяржавы, супраць сацыяльных падвалін дзяржавы».

У сённяшняй праграме па беларускай літаратуры ёсць творы не раз крытыкаваных Чаргінцом Бураўкіна, Барадуліна, Гілевіча, нават Законнікава. І Вольгі Іпатавай з Уладзімірам Арловым, хай сабе і ў спісе пазакласнага альбо самастойнага чытання. А вось твораў самога Мікалая Чаргінца ў спісе літаратуры не было, хоць пра яго і ўзгадваюць на ўроках рускай літаратуры ў тэме «Рускамоўная літаратура Беларусі».

**Кастусь Матушыч**



**Вось такія ідэалагічна выверাныя шапкі з'явіліся ў продажы ў беларускіх крамах. «Кожнаму чыноўніку — па шапцы», — жартуюць магазіншчыцы.**

З ПОШТЫ РЭДАКЦЫІ

## Задача для малодшых школьнікаў

**На колькі працэнтаў абясцэніўся рубель за час кіравання Лукашэнкі?**

У 1994 годзе ў нас у мяшку было 1000 разліковых білетаў банка ЗША. Але як шчырыя патрыёты, паверыўшы ў эканамічны геній маладога прэзідэнта, вырашаем гнілыя буржуйскія грошы перавесці ў нашыя кроўныя рублі.

Курс даляра да рубля на той момант складаў 11500 руб./$1. У выніку мы атрымалі 11,5 млн рублёў і паклалі іх ў панчоху ад чужых вачэй далей.

У канцы 1990-х Лукашэнка праводзіць дэнамінацыю і адымае адзін нуль ад рубля. У выніку мы ўжо маем 1 150 000 рублёў. У пачатку 2000-х Лукашэнка праводзіць яшчэ адну дэнамінацыю і адымае ўжо тры нулі ад рубля. І мы маем ужо 1 150 рублёў.

26 мая 2011, паддаўшыся паніцы, мы вырашылі абмяняць беларускія рублі на даляры. Адстаяўшы доўгія чэргі, мы за свае 1 150 рублёў атрымалі 0,22 $ (па курсе Нацбанка 5000 руб./$1).

Пытанне: колькі працэнтаў склала абясцэньванне беларускага рубля за час кіравання Лукашэнкі?

**Зміцер, Мінск**

# Бахчысарай — Палац у садзе

Купанне ды пляжы — мізэрная частка цікавостак Крыма. Піша **Сяргей Харэўскі.**

Сёлета з’ездзіў у Крым напярэдадні купальнага сезона і, як аказалася, валютнага крызісу. Купанне ды пляжы насамрэч — мізэрная частка цікавостак таго дзіўнага краю. Для матрацных турыстаў застаюцца невядомымі горад Стары Крым (старажытны Салхат); старасвецкія кварталы Еўпаторыі, былога Гелзёва і Феадосіі, колішняй Кафы; закінутыя мёртвыя гарады Мангуп і Эскі-Кермен у гарах; ваколіцы Бахчысарая.

Татарскі Крым адраджаецца. А літаральна гадоў дваццаць таму ў гэта мала хто верыў... Хоць багата чаго ўжо не вернеш ніколі. Як і ў Беларусі.

## Азан — пяць разоў на дзень

Бахчысарай у перакладзе азначае — Палац у садзе. Стары горад, што месціцца між гораў, патанае ў садах. Тут расце багата ўсяго — ад міндаля да персікаў. Пасля першага намазу, перад світанкам, татары пачынаюць працу ў дамах, гародах і садах. На малітву будзіць азан — заклік з мінарэтаў.

Слова «мінарэт» аднолькава гучыць на ўсіх еўрапейскіх мовах, а па-арабску азначае «маяк». Стромыя і вострыя, як алоўкі, яны і служаць маякамі: нагадваюць, дзе знаходзішся. Асабліва калі яшчэ да ўзыходу сонца з іх балконаў-шэрэфэ гучыць заклік да малітвы. Жывы чалавечы голас замест металічнага бомкання. І так пяць разоў на дзень. Бадзёрыць! Што праўда, усё часцей гэта толькі «фанера» з рэпрадуктара.

## Гатэльнае пытанне

У Бахчысараі я жыў у гатэлі «Мераба», які́м кіруе мой даўні сябар з Варшавы. Тут прымалі беларусаў не раз. Тэрыторыя гатэля належыць грамадскай арганізацыі, што займаецца адраджэннем тамтэйшых традыцыйных рамёстваў і народнага мастацтва. Тут ёсць сапраўдныя ганчарныя, ювелірныя, ткацкія майстэрні ў старасвецкіх дамах. У іх можна вольна заходзіць, сачыць за працаю разьбяроў ці чаканшчыкаў, нешта выбраць сабе, нешта набыць у падарунак.

Праца ў цэнтры сканчаецца позна, таму штодня, апроч мусульманскае пятніцы, тут можна назіраць за паўсядзённасцю тамтэйшых людзей. Нехта доіць карову, нехта корпаецца ў гародчыку, недзе сякуць дровы, чуваць перабрэх сабак, крык пеўняў.

А ў тым гатэлі — зусім варшаўскі камфорт: навюткая мэбля, прасторная душавая, wi-fi, спадарожнікавае TV. А з лоджыі — шыкоўны выгляд на старажытны Ханскі палац пасярод садоў.

Тут з тузін гатэлікаў і гасцявых дамоў. Бахчысарай вабіць аматараў сівое даўніны, пешых паходаў па гарах ды простага, амаль вясковага жыцця тубыльцаў.

## Ханскі маўзалей і Успенскі манастыр

Апроч Ханскага палаца, апетага паэтамі, ад Адама Міцкевіча да Людмілы Рублеўскай, мячэтаў ды старых кварталаў, тут ёсць і старажытны Успенскі манастыр VII ст. у скалах. Па дарозе да яго можна ўбачыць адрэстаўраваны маўзалей (дзюрбе) першых крымскіх ханаў — Хаджы-Даўлет-Гірэя і яго сына Менглі-Гірэя.

Маўзалей пабудаваны аж у 1501 г. Побач з ім — сярэднявечны будынак пад чырвонай дахоўкаю; гэта былое медрэсе — цяпер Вышэйшая мусульманская Духоўная школа.

За ім пачынаецца горная дарога праз лес, да манастыра. Жыццё ва Успенскім, дзе хаваліся ад іканаборцаў шанавальнікі абразоў і мастакі-«багамазы», было цікім... Тут (як і ў Охрыдзе, што на Балканах) зберагалася мастацтва ўсходніх абразоў «рускае іконы». Але несціханы прыбой жыцця не дае спакою. Адусюль едуць паломнікі. Тое, што зберагло́ся ў часы ганенняў і занядбання, сёння ўсё болей становіцца турыстычнай прынадай. Вакол манастыра разбудаваліся гасцявыя дамы і крамы з сувенірным хлудам. Ёсць на што паглядзець... Альбо проста адпачыць у лясных шатах пад гарою, ля святое крыніцы.


Успенскі манастыр — прытулак іканапісцаў «рускай» школы.

## Ханы-суайчыннікі

Яшчэ вышэй за Успенскім манастыром знаходзіцца месца паломніцтва мусульманаў — святы калодзеж пры старажытных могілках праведных дэрвішаў. А яшчэ вышэй, праз цясніну, на самай вышыні ляжыць мёртвы горад Чуфут-Кале, колішняя рэзідэнцыя першых ханаў Крыма з роду Гірэяў, чый лёс быў беспасрэдна звязаны з Беларуссю. З паходу Вітаўта на Крым у 1397 г. адсюль былі вывезены сотні караімскіх і татарскакрымскіх сем’яў, якія пасяліліся пераважна ў Беларусі. Яны складалі гарнізоны паблізу нямецкіх межаў. Сярод іх і бацька хана Крыма Хаджы-Гірэя, Гіяс-ад-Дын, які памёр у Беларусі. Дый сам Хаджы-Гірэй нарадзіўся ўжо ў Беларусі, імаверна ў Лідзе. Яго родны дзядзька Дэўлет-Бірда (кіраваў Крымам у 1426—1429 гг.) таксама знаходзіўся са сваёй сям’ёй у нашым краі і пры падтрымцы Вітаўта ў 1426 г. захапіў крымскі пасад.

І гэта не адзіны выпадак, калі вялікі князь літоўскі саджаў патрэбнага яму хана на Крым. Як сведчыць летапіс, князь Казімір Ягайлавіч «па іх просьбе (крымскіх беяў)... цара Азі-Гірэя з вялікім гонарам у арду Перакопскую на царства паслаў, і паслаў з ім... маршалка земскага Радзівіла, і Радзівіл... імем вялікага князя Казіміра пасадзіў яго на царства Перакопскае». Самога Хаджы-Гірэя, праўдападобна, абвесцілі ханам яшчэ ў нас, у Лідзе...

## Чуфут-Кале — мініяцюрны Ерусалім

Чуфут-Кале, што месціцца над цяснінаю, на краі Бахчысарая, сёння падобны да мініяцюрнага Ерусаліма. Тут захаваліся дзясяткі сярэднявечных дамоў, колісь непрыступныя ўмацаванні, маўзалеі і дзве караімскія сінагогі — кенасы. Тутсама, у доме караімскага асветніка, знанага арыенталіста і гебраіста XIX ст. Фірковіча, сёння культурны цэнтр караімаў. Ён адчынены толькі летам, у турыстычны сезон, бо зазвычай тут, у мёртвым горадзе Чуфут-Кале, ніхто не жыве.

А колісь недзе тут была суровая вязніца, у якой сядзелі ў нявolі князь Астрожскі, ваявода Патоцкі, пасол Вялікага княства Лёз, дзясяткі іншых важных паноў-вязняў з Беларусі, Польшчы, Масковіі. «Выбрацца з турмы ў Чуфут-Кале немагчыма, хіба што чалавека з турмы ўзнясуць. Да такой ступені жахлівая гэтая турма», — пісаў у сваіх успамінах турэцкі падарожнік Эўлія Чалебі ў 1666 г.

У пагодны дзень з вышыні Чуфут-Кале, што пануе над Бахчысараем, відаць і ззянне блакітнага мора. Адсюль да ўзбярэжжа ўсяго 18—20 км, і туды ездзяць маршруткі, аўтобусы, папуткі. Урэшце, можна ўзяць і ровары напракат у гатэлі. Дзіва, што тут засталіся куткі, куды не дабраліся аматары пляжнага фастфуду. Дзіва, што тут ёсць куткі, цудам адроджаныя пасля ўсяго, што тут рабілася апошнія сто гадоў. Дзіва, што тут яшчэ можна адчуць сябе адкрывальнікам.

## Гарбата, сабраная рукамі

Ну і, вядома ж, тут заўжды добра накормяць. У кавярнях «Аліе» або ў «Мусафір», што ў самым цэнтры, ці «Караван-Сарай», што па дарозе да Чуфут-Кале, ці ў любых іншых можна паласавацца сармой — маленькімі галубцамі ў вінаградным лісці, ці чабурэкамі проста з агню. Тутэйшая кухня ўвабрала ў сябе традыцыі ад Міжземнамор’я да Узбекістана. Тут яшчэ жывуць панаткі шчырай гасціннасці.

Крымцы дастаюць для гасцей зялёную гарбату ад сваіх сваякоў ва Узбекістане. Таму хатняя зялёная гарбата, сабраная рукамі, прасушаная і падвэнджаная, запраўленая горнымі крымскімі зёлкамі, — тут самы адпаведны напой. Хоць і каву ў Бахчысараі паўсюль робяць выдатна!


Тут проста адчуць сябе ханам.


Мёртвы горад Чуфут-Кале.


Старажытныя будынкі Бахчысарая.

Фота Веры Дзядок

# Чарка, скварка, іншамарка

**Павал Касцюкевіч.**
Апавяданне.

Пытанне вымагала годнага адказу. Усе трыццаць восем вачэй бетэльгейзіянца красамоўна глядзелі на Толіка. Ну не тое, што магла сарвацца ўгода — бетэльгейзіянцу ж прапанавалі нармальную цану: тут была іншая справа, справа гонару. Не, далібог, людзі, нашто столькі іншамарак?

Толік, шчыра сказаць, пытання чакаў. І злёту зарадзіў пра тое, як Яго родная планета калісь насіла назву Зямля, аж пакуль не з'явілася гэтая надрэлігійная, наднацыянальная звышідэя «Чарка, Скварка, Іншамарка», якая прыйшла з маленькай усходнееўрапейскай краіны. Новая Добрая вестка несла адказы на ўсе патаемныя пытанні ды, дасканала дапасаваная да руху людскіх душаў, нарэшце адпавядала ўсім глыбінным жаданням чалавецтва.

Звышідэя не супярэчыла ніводнаму чалавекалюбнаму вучэнню — толькі дарыла яшчэ большае суцяшэнне і ўпырсквала ў галовы сваіх прыхільнікаў слановую дозу душэўнага спакою, ахінаючы кожнага чалавечка ўсеабдымнай літасцю і спагадаю.

Толік распавядаў, як ЧСІ-ідэя пакрысе захапіла зямную кулю. Адэпты новай веры дарогаю па іншамаркі разносілі насенне вучэння па ўсёй Еўропе — прапаведуючы яго на справе. Цяпер нават немцы імкнуліся пакінуць межы сваёй краіны, толькі б далучыцца да гэтай сакральнай працэсіі. Пасля поўнага злыбедаў і адкрыццяў падарожжа яны вярталіся дадому адноўленымі, адухоўленымі, з новай вераю ў галаве і сэрцы. А таксама з новай машынай, перакупленай у сябе саміх. То было цалкам новае нязнанае пачуццё: незямная весялосць, змяшаная з глыбінным веданнем таемных спружын існавання.

Хрысціянскія святары, мусульманскія мулы, юдэйскія рабіны і будысцкія ламы ўдзень яшчэ шмальцавалі так-сяк свае літургіі, а вось надвячоркам шчыравалі напоўніцу — перабудоўвалі бажніцы пад гаражы.

Да новай звышверы, што змяніла абрысы айкумены і перайначыла контуры людскіх душаў, далучаліся ўсё новыя і новыя народы — аж пакуль урэшце планету не перайменавалі ў Беларусь.

Толік ужо не стаў пашырацца пра глабальныя ўзрушэнні на планеце: адно апісаў, як людзі ўзняліся і зруйнавалі хмарачосы на Уол-стрыце адно дзеля таго, каб адляскаць мега-аграгарадок Новыя Гарлемавічы з двума гаражамі ў кожным дамку. А таксама пра тое, як па Міжземным моры прайшлася масіўная меліярацыя на палескі манер. Дарэчы, сам Толік быў індусам з горада Нью-Мінск (былы Бангалор), а ягоны бацька Раджэш Кутрапалі, сцяміўшы адкуль дзьме вецер, пасля нараджэння спадкаемца абдарыў яго чыста крывіцкім імем.

– Анатоль Раджэшавіч, усё гэта вельмі цікава, але, далібог, не калмаць бабулю — адкажы ўжо на простае пытанне: нашто беларусам так шмат іншамарак? — перабіў яго бетэльгейзіянец, знецярплівулена кусаючы хвост. — Ясце вы іх, ці што?!

Выцягнуты з паўтрансу, Толік усміхнуўся:

– Я адкажу табе, чужынец, усю праўду адкрыю, але гэта будзе каштаваць яшчэ адну іншамарку.

Разлік быў дакладны. За, можа быць, самую нашумелую таямніцу гэтага сектара галактыкі цікаўныя бетэльгейзіянцы, не вагаючыся, гатовыя запрадаць нават родную матулю (хоць тых матуль у кожнага з іх сем).

І таму ўжо праз дваццаць пяць хвілінаў Толік кіраваўся да выезду са знакамітых бетэльгейзіянскіх гаражоў, трымаючы пад аброць адным духам на яго аформленага белага «мерына».

Хто вінен — аддаць павінен. Асланяючы вусны рукой і зіркаючы некуды ў бок усюдыіснага неба (там у вышынях раскудлаціла сваю грыву Туманнасць Конская Галава) Толік нахіліўся і, як на споведзі, прашаптаў у трохкутную вушную адтуліну бетэльгейзіянца ўсю праўду пра лёс іншамарак на Беларусі.

Аёй жа! Учуўшы Толікавы прызнанні, ашаломлены бетэльгейзіянец умольна стаў шукаць на твары беларуса абвяржэнняў. Не знайшоў — і з капытоў далоў: раптам збялеў, захістаўся, прамармытаў ці то праклён, ці то малітву, неяк нетрывала пахіліўся, заплюшчыў усе свае трыццаць восем вачэй, затуліў хвост паміж ног ды ўрэшце ляпнуўся на зямлю, як пераспелы персікавун.

* * *

Назіраючы, як праз атрамантавыя прасторы адкрытага космасу за ім паслухмяна імчыць табун з сарака патрыманых «Аўдзі», Толік пасміхнуўся сам сабе ў мерсэдэсаўскае люстра задняга агляду. Як вядома, моцнае, даведзенае да клінічных памераў здзіўленне ўганяе прадстаўнікоў бетэльгейзіянскай расы ў стан незваротнага анабіёзу. Праз дватры месяцы, не прыходзячы да памяці і вычарпаўшы ўсе ўнутраныя рэзервы арганізма, іншапланетны аўтадылер склеіць дошчачкі, забраўшы пачутую таямніцу з сабой у магілу. Касмічны ветрык біў у ілюмінатар, а ў радыё прарваўся голас паплечніка, алжырца Мішаньчыка:

– А ці не зрабіць нам прывал на Месяцы?

Кавалькада перагоншчыкаў збочыла ў бок неўрадлівай камлыгі беларускага спадарожніка. Мішаньчык, вядома, ужо меў планы:

– Давай гэты джып, — зноў пачулася ў радыё ягоная прапанова.

Перагоншчыкі развярнуліся і хапатліва прыпусцілі наўздагон адной з «аўдзюшак».

Патрыманы джып стаў быў уцякаць, віхляючы і кружляючы. Яго спрабавалі ўтаймаваць жазлом даішніка і сіне-чырвонымі выбліскоўымі маячкамі, але джып не зважаў — шалёным дзіком працягваў свае ўпірыстыя, але безнадзейныя ўцёкі. «Ну, сучына вымя!» — не сваім голасам зароў Толік і, дастаўшы лазерны кольт, пачаў шмаляць па колах. Джып перакуліўся, потым яшчэ раз, трохі загарэўся (выбухаюць іншамаркі толькі ў кіно) і, згаслы, спыніўся пасярод месяцовага плато. З капота павалiла пара.

Толік падляцеў першы — атамнай нажоўкай адрэзаў кавалак ад дымлівых яшчэ шынаў. Чорная гума крыху апякала рот, і, па шчырасці, смак быў паскудны: з пылам, пяском, але ж гэтак смакавала ягоная паляўнічая перамога. Працягваючы жаваць, Толік запусціў руку ў кішкі джыпа і выняў адтуль яшчэ трапяткі прывадны пас. Перапэцкаўшыся ў счарнелую аліву, накруціў пас на палец — як накручваюць спагеці на відэлец — і заеў ім кавалак шыны. Гэтым разам было цалкам уежна.

Мішаньчык падскочыў неўзабаве, падстаўляючы рот пад мяшанку антыфрызу і кіпеню, што хвастала з-пад капота. Крыху апёкшы тонкія вусны і смуглявыя шчокі, ап'янелы, алжырабеларус заплюшчыў вочы. На закуску лазерным мачэтэ высек лапік абшыўкі з пярэдніх дзвярэй. Яшчэ дымлівы па краях ліст са скрыгатам знік у Мішаньчыкавым горле, выклікаўшы на твары ўсмешку прасцяцкай задаволенасці. Мішаньчык зазначыў:

– Не люблю новыя іншамаркі — сала нагуляць не паспяваюць.

– Але тут самы цымус — не ператрымаць, — заўважыў Толік, у якога на зубах хіжа храбусцелі заднія фары. — Калі пачне ржавець корпус, трэба рэзаць не адкладаючы. Паўгода прамарудзіш — іржа змятае ўвесь каркас. І тады іншамарку хіба Ваўкавыскаму мясакамбінату на аўтатушонку здасі.

– Ага, пускаць на мяса заржавелыя іншамаркі — гэта ўсё адно, што з галадухі набіць лантух прычэпам «Зубраня», — сказаў Мішаньчык і нястрымана зарагатаў.

Па-над імі, займаючы ледзьве не палову зорнага неба, гіганцкай запаскай навісала родная Беларусь. Толік прымружыўся, гатовы зуб даць, што амаль бачыць, як на яе пабітых меліярацыяй міжземнаморскіх прэрыях у святле фараў гуртуюцца купкі такіх самых, як і яны, абцёрханых перагонамі і бадзяжнай жыткай, мужчын. У падзёртых скуранках, уцепленых клятчастых кашулях і залапленых джынсах каўбоі-перагоншчыкі самавіта правяць усяночную ля прыдарожных вогнішчаў. Вогнішчы шугаюць і кідаюць дагістарычныя блікі на мужчынскія твары, а на ражне, сцякаючы алівай, накручвае кіламетраж асвежаваная туша «Фальксвагена Гольф».

# У начным падполлі: нелегальныя гонкі ў Мінску

Як выглядае беларускі дрэг-рэйсінг.



Чацвер. Вечар. З праспекта Незалежнасці мяне падбірае цюнінгаваны белы «БМВ». За стырном — малады хлопец Аляксей. Менавіта ён адзін з арганізатараў закрытых і нелегальных вулічных гонак у сталіцы. Паўгадзіны выбіраемся за межы горада — за 30 кіламетраў ад Мінска дзе ёсць загадзя вызначаны ўчастак шашы — там сёння адбудуцца спаборніцтвы сталічных дрэгрэйсераў.

Участак шашы выбіраецца прыдатны для гонак — пажадана шырэйшы за дзве паласы, добрае пакрыццё, адсутнасць паваротаў і любых перашкод, а таксама месцаў, дзе б магло падпільнаваць ДАІ. Часам на ўчастках дарог, дзе часта праводзяцца гонкі, укладаюцца ляжачыя паліцэйскія — так шаша робіцца непрыдатнай для нелегальных заездаў.

Як арганізатар, Аляксей прыязджае адным з апошніх. Ля лініі старту вызначаное месца для яго аўто. Перад ім машыны не ставяцца — такое правіла.

Абапал шашы стаяць шэрагі машын — часам набіраецца некалькі соцень. Пасля заходу сонца пачнуцца падпольныя заезды...

Дрэг-рэйсінг — гэта гонка на паскарэнне на загадзя вызначаную адлегласць. Найчасцей гэта чвэрць мілі — 402 метры — стандарт спрынтарскай дыстанцыі. Гонкі ладзяцца на любых машынах. Радзімай дрэг-рэйсінгу лічацца ЗША, дзе вулічныя гонкі нарадзіліся ў сярэдзіне 1950-х, а сёння выраслі да прафесійнага і дарагога аўтаспорту.

Беларускі ж дрэг-рэйсінг развіваецца ў двух вымярэннях — легальным і нелегальным. Ёсць афіцыйна зарэгістраваная федэрацыя дрэг-рэйсінгу, але афіцыйныя заезды і спаборніцтвы яна арганізуе нячаста. Таксама існуе праблема адсутнасці спецыяльных дарог для такіх гонак. Афіцыйныя старты цяпер праходзяць на аэрадромах.



Для прафесійнага ж росту гоншчыкаў і існуюць такія нелегальныя заезды на пэўных участках грамадскіх дарог. Яны адбываюцца ва ўсіх буйных гарадах Беларусі. У Мінску існуе некалькі закрытых супольнасцяў, які арганізуюць гонкі. Інфармацыя пра заезды распаўсюджваецца толькі сярод знаёмых — СМС-рассылкай і праз інтэрнэт.

Пасля 22-й да лініі старту пад'язджае першая пара машын. Адмашку дае арганізатар — Аляксей. На фінішы стаіць адно аўто, пара фішак і спецыяльны чалавек, які па рацыі перадае вынік заезду. Сяброўкі Аляксея вядуць імправізаваны пратакол у нататніку, а выннікі гонак аб'яўляюцца праз інтэрнэт. Выпадковыя людзі на гонкі трапляюць рэдка. Фініш машын запісваецца на відэа, каб не было спрэчак.

У заездах могуць удзельнічаць абсалютна розныя аўто адной класіфікацыі. Тут некалькі крытэраў — аб'ём рухавіка і базавая альбо палепшаная камплектацыя.

Першае, што кінулася ў вочы — высокая самаарганізацыя начных гонак.

Кожны ўдзельнік ведае негалосныя правілы: не стаяць блізка да лініі старту, вытрымліваць дыстанцыю, не смеціць ля дарогі. Таксама — бесканфліктнасць і ўзаемапавага.

Нехта прыязджае і проста паглядзець. Аляксей распавядае, што бываюць сітуацыі, калі на гонкі прыязджаюць хлопцы з навакольных вёсак і парушаюць правілы — ставяць машыны за лініяй, умешваюцца ў працэс гонак ці блізка здымаюць дарагія аўто на мабільнік. Калі адчуваецца, што пачынае знікаць кантроль за сітуацыяй, арганізатары і прафесійныя ўдзельнікі гонак проста з'язджаюць — так удаецца пазбегнуць праблем з праваахоўнымі органамі і аварый.

Хто можа сабе дазволіць такі нятанны аўтаспорт? Вельмі розныя людзі, кажа Аляксей. Гоншчыкі на дарагіх аўто (бывае, прыязджаюць машыны болей чым за 50 тысяч даляраў) не афішуюць сябе — гэта бізнэсоўцы ці іх дзеці, сыны чыноўнікаў і міністраў. Але бываюць і выключэнні: апантаныя гоншчыкі працуюць кіроўцамі ці прадпрымальнікамі, а ўсе сродкі ўкладаюць толькі ў машыну.

Праз паўтары гадзіны пасля пачатку гонак, здалёк чуецца папераджальны гук патрульнай машыны ДАІ. Усе хуценька рассыпаюцца па аўто — арганізатары хаваюць у багажнік неабходны для гонак рыштунак.

ДАІ можа спыніць аўто на праверку, але складу злачынства не існуе — хіба паркоўка на зялёнай зоне.

Аляксей наракае, што апошнім часам «наезды» ДАІ здараюцца ўсё часцей. Нелегальныя гоншчыкі разглядаюць варыянты арэнды аэрадромных трас, дзе можна не перажываць за бяспеку гонак. Там яны будуць яшчэ больш закрытымі і недаступнымі для выпадковых наведнікаў.





**Тэкст і фота Сяргея Гудзіліна**

# Манаграма князя Багуслава, або Загадка герба Слуцка

Яшчэ адзін след Радзівілаў у беларускай гісторыі.
Піша **Кірыла Карлюк.**

Сімвал старажытнага Слуцка — гарадскі герб з выявай Пегаса і загадкавай манаграмай. Новыя крыніцы раскрываюць яе таямніцу і сведчаць, што ў сучаснай рэканструкцыі герба была дапушчаная прыкрая недакладнасць...

### Князь слуцкі — кузэн «Караля-Сонца»

Бліскучы арыстакрат, адзін з найбагацейшых магнатаў Вялікага Княства Літоўскага Багуслаў Радзівіл (1620–1669), імя якога неразрыўна звязана з гісторыяй Слуцка, нарадзіўся ў Гданьску ў сям'і князя Януша Радзівіла, віленскага кашталяна, і прынцэсы з каралеўскага роду Лізаветы Сафіі Гагенцолерн. Рана страціўшы бацьку, сваё дзяцінства Багуслаў правёў у бацькоўскіх маёнтках у Прусіі і Франконіі. Пасля пад апекай свайго знакамітага дзядзькі Крыштафа Радзівіла, вялікага гетмана літоўскага, Багуслаў атрымаў бліскучую адукацыю ў кальвінісцкіх гімназіях Вільні і Кейдан. Ён вучыўся разам з найвядомейшымі еўрапейскімі арыстакратамі таго часу, такімі, як сілезскі князь Хрысціян Легніцкі, што лічылі за гонар атрымліваць веды ў ВКЛ. Адна з такіх гімназій, заснаваная бацькам Багуслава, дзейнічала і ў Слуцку.

У 1637–1648 гадах князь Багуслаў працягнуў адукацыю падчас традыцыйнага для тагачасных беларускіх магнатаў Grand Tour («Вялікага Вояжу») па Заходняй Еўропе. Ён падарожнічаў па Нямеччыне, Нідэрландах, Францыі і Англіі, навучаўся ў знакамітых галандскіх універсітэтах Гронінгена, Франекера і Утрэхта, прыватных «рыцарскіх акадэміях» у Парыжы, браў удзел у ваенных выправах галандскіх і французскіх войскаў супраць іспанцаў. Радзівіл наладзіў шчыльныя кантакты з прадстаўнікамі пануючых дамоў Еўропы: Гагенцолернамі, Аранскімі-Насаў, Бурбонамі, Пфальцамі, Сцюартамі, Гесэн-Касэлямі, Анхальтамі — сувязі, якія нярэдка былі падмацаваныя і дынастычным сваяцтвам. Нават знакаміты Людовік XIV «Кароль-Сонца» звяртаўся да яго найчачай, як «наш найдаражэйшы і найулюбёнейшы кузэн...»

### Непрыступны бастыён Літвы

Пасля вяртання на радзіму ў 1648 годзе Радзівіл, займаючы пасаду канюшага ВКЛ, апынуўся ў віхуры падзей, звязаных з казацкім паўстаннем ва Украіне, Трынаццацігадовай вайной з Расіяй, Кейданскай уніяй ВКЛ са Швецыяй... У 1657 годзе яго сваяк, брандэнбургскі курфюрст Фрыдрых Вільгельм Гагенцолерн прызначыў Багуслава прускім генерал-губернатарам. У Кёнігсбергу ён стаў адным з першых еўрапейскіх архітэктараў абсалютызму, заклаўшы будучую веліч Прускай дзяржавы.

Радзівіл быў вялікім мецэнатам мастацтва і навукі свайго часу. Яго каласальны збор жывапісу ў Любчы налічваў каля тысячы твораў, адных толькі карцін Лукаса Кранаха было 24, а ў кнігазборы князя пачэснае месца займаў і знакаміты «Радзівілаўскі» летапіс XV стагоддзя. Дзякуючы падтрымцы князя, працавала кальвінісцкая гімназія, а таксама школы пры праваслаўным Праабражэнскім брацтве ў Слуцку.

Слуцк быў перлінай уладанняў Багуслава Радзівіла. Ён ператварыў Слуцк у адзін з самых вялікіх, заможных і квітнеючых гарадоў ВКЛ з насельніцтвам, большым за 7000 чалавек. Горад быў умацаваны інавацыйнай сістэмай бастыённых фартыфікацый, разлічанай на вялікі гарнізон і чатыры палкі гарадскога апалчэння, сфармаваныя на ўзор галандскіх schutterijen (стралкоў). Дзякуючы гэтаму, Слуцк, адзіны ў Беларусі, не быў захоплены і разрабаваны падчас крывавай вайны з Масковіяй 1654–1667 гадоў, што забрала жыцці каля 40% жыхароў ВКЛ.

Развіццё цэхавага рамяства, спрыяльныя эканамічныя ўмовы, створаныя князем, прывабілі ў горад нават эмігрантаў з далёкай Шатландыі. Былі гэта, праўда, не горцы ў кілтах, а кемлівыя і прадпрымальныя шатландцы-кальвіністы, нашчадкі саксаў Лоўленда.

У верацярпімым горадзе пад аховай моцных бастыёнаў суіснавалі пратэстанцкія зборы розных кірункаў Рэфармацыі, праваслаўныя цэрквы і сінагогі. На грошы князя падтрымліваліся дзясяткі праваслаўных святынь горада, быў заснаваны новы манастыр і шпіталь.

Пад галандскім уплывам энергічны Багуслаў марыў пра стварэнне ў Слуцку збройных мануфактур і нават пра пабудову гандлёвага канала, каб злучыць рэкі Нёман і Случ, а значыць басейны Балтыйскага і Чорнага мора. Гэта зрабіла б горад найважнейшым гандлёвым цэнтрам рэгіёна.

Ба
Гр
па
Д.



### Герб Слуцка і таямніца радзівілаўскай манаграмы

27 жніўня 1652 года Багуслаў надаў Слуцку Магдэбургскае права і шэраг прывілеяў. Радзівіл дазволіў случчакам пабудаваць ратушу, абіраць гарадское самакіраванне, рэгуляваць дзейнасць рамесных і купецкіх цэхаў, вырашаць пытанні забудовы горада. Усталёўваліся гандлёвыя дні (панядзелак і субота), кірмашы два разы на год, на якіх былі тавары нават з партовых гарадоў Балтыкі: Рыгі, Кёнігсберга, Мемеля (сёння — Клайпеда).

Тады старадаўні Слуцк і атрымаў уласны герб. У наш час яго рэканструяваў Анатоль Цітоў, прызнаны адмысловца ў галіне сфрагістыкі і геральдыкі. Даследчык зрабіў такое апісанне герба: «у блакітным полі срэбны конь з крыламі; на чырвонай гунцы пад княжацкай каронай манаграма R[adivil] D[ux]».

Рэканструкцыя рабілася паводле выяў гарадскіх пячатак Слуцка XVII—XVIII стст. Аднак манаграма на іх адбілася неразборліва, і яе інтэрпрэтацыя выклікала спрэчкі.

Высновы А.Цітова паставіла пад сумнеў гісторык Тамара Габрусь. У сваім артыкуле «Навошта каню крылы, альбо Ушанаванне Багуслава Радзівіла» («Спадчына», 1993, № 1), аўтарка сцвярджала, што «манаграма, змешчаная пад княжацкай каронай, лёгка раскладаецца на лацінскія літары «B» і «R» — пачатковыя літары імя Багуслава Радзівіла». Менавіта Багуслаў быў ініцыятарам надання Слуцку гарадскіх правоў, таму версія Т.Габрусь выглядае пераканаўча.

Аднак і А.Цітоў, і Т.Габрусь маюць рацыю напалову. Манаграма складаецца насамрэч не з двух, а з трох літар: BRD — Boguslaus Radzivil Dux (лац. Багуслаў Радзівіл Князь).

Выразныя абрысы гэтых трох літар, стылістычна падобных да літар на гербе Слуцка, бачныя на пячной паліванай і непаліванай кахлі 1660-х з Біржанскага замка (зараз у Літве). Ён у той час належаў і быў перабудаваны князем Багуславам.

Яшчэ большую цікавасць выклікае ўнікальная паліхромная кахля, знойдзеная падчас археалагічных раскопак Верхняга замка ў Слуцку. Зараз яна экспануецца ў Слуцкім краязнаўчым музеі. На ёй змешчана выява герба Слуцка ў лаўровым вянку. У цэнтры, на чырвонай гунцы каня — манаграма BRD. Літары там стаяць асобна.

Радзівіл надаваў вялікую ўвагу архітэктурным, будаўнічым і мастацкім дэталям, у тым ліку канструкцыі печаў у сваіх палацах і малюнку кахлі (у Нацыянальным архіве захаваліся два падрабязныя праекты кахляных печаў з абмерамі, зробленымі рукой князя). Так што ён самастойна мог праінструктаваць майстроў нават наконт такой драбязы, як выява герба на кахлі.

У Радзівілаўскім архіве ў Варшаве быў знойдзены інвентар 1705 года гармат слуцкай фартэцыі, пашкоджаных шведамі падчас Паўночнай вайны. У ім згадваюцца чатыры гарматы і марціра, адлітыя на загад князя Багуслава. На інскрыпцыях кожнай з іх змешчаная манаграма BRD пад княжацкай каронай. Манаграма старанна перамаляваная ў інвентары ад рукі, яна дакладна паўтарае абрысы літар на кахлі з Біржанскага замка.

Відавочна, менавіта такая манаграма была персанальным сімвалам Багуслава Радзівіла. І ў 1652 годзе менавіта яна была змешчаная ўладальнікам Слуцка на падараваным гораду гербе.



**Кірыла Карлюк**

нар. 1984 у Мінску. Дактарант Еўрапейскага гуманітарнага ўніверсітэта (Вільня), займаецца гісторыяй паўночна-ўсходняй Еўропы.

### Ці вернецца імя князя на герб горада?

Хацелася б, каб на гэтыя акалічнасці звярнулі ўвагу ў першую чаргу гарадскія і раённыя ўлады Слуцка, адпаведныя дзяржаўныя інстытуты. У нас як нашчадкаў шматвекавой гісторыі ёсць магчымасць вярнуць незаслужана забытае імя князя Багуслава Радзівіла, які зрабіў гэтак шмат для Слуцка, на самае пачэснае месца — на герб горада. Асаблівую актуальнасць гэтаму надае юбілей (360 гадоў) атрымання Слуцкам уласнага герба, які будзе адзначацца ў 2012 годзе.

**Сфрагістыка** (радзей сігілаграфія) — спецыяльная гістарычная дысцыпліна, якая займаецца вывучэннем пячатак.



**Сучасны герб Слуцка.**



**Кахля з Біржанскага замка, 1660-я.**



**Выява манаграмы Багуслава Радзівіла з інвентара гармат Слуцкай фартэцыі 1705 г.**




## КАНЦЭРТЫ

### Ob-La-Ki Ob-La-Ka

**Віцебск працягвае традыцыю фестываляў,** прысвечаных творчасці The Beatles. 17—19 чэрвеня горад Шагала ператворыцца ў аналаг Ліверпуля: у мяцовых клубах, Летнім амфітэатры ды і ўвогуле не вуліцах будзе гучаць музыка «бітлоў». Спецыяльны госць фестывалю — расійскі «Акварыум». Сярод іншых выступоўцаў — найлепшыя выканаўцы «Бітлз» у Беларусі: гурт The Apples, а таксама алдовы гурт FLAT, блюзмэн Аляксандр Цыганок.

### RockerJoker

**19 чэрвеня ў «Графіці»** зайграе RockerJoker. Гэты дуэт стаў папулярны незадоўга перад выбарамі 19 снежня 2010 года. Тады шырока разшлася іх іранічная песня «Саня останется с нами». Афіцыёз зразумеў яе літаральна і выкарыстоўваў у агітацыі. Пасля выбараў музыкі заявілі, што праект разыходзіцца. Аднак, як бачым, RockerJoker жывы. **Пачатак канцэрта а 18-й.**

### Гаротніца

**17 чэрвеня ў «Графіці»** — «Гаротніца». **Пачатак а 19-й.**

### Вольнае паветра—2011

**2 ліпеня ў Беларусі** выступяць паўтара дзясятка этна-артыстаў з Польшчы, Украіны, Літвы, Расіі, Сербіі і Беларусі. Усё гэта пад адкрытым небам на маляўнічым хутары Шаблі, в. Малое Запруддзе, Валожынскі р-н — 80 км ад Мінска ў бок Вільні. Арыенцір — в. Гародзькі.

Акрамя беларускіх выканаўцаў сучаснага фольку (Dzivasil, Akana, «Нагуаль»), на фестывалі ўпершыню выступяць музыкі з розных куткоў Расіі («Комба Бакх», «Таки Да»), а таксама калектывы з Польшчы (Zywiolak, Wadada, DJ Wojcio), Украіны («Бальян Сауна Сістэм»), Літвы (Sovijus) і Сербіі (Shazalakazoo).

Час правядзення: з 15.00 да 6.00. Квіткі: 20 тыс. руб (уваход), 50 тыс. (уваход + кемпінг). Дзе купіць: у бары «Малако» (пр. Незалежнасці, 37а), каса КЗ «Мінск» (вул.Кастрычніцкая,5), пераход ст.м. «Пл.Якуба Коласа» (выхад да Філармоніі), а таксама ў сістэмах kvitki.by i ticketpro.by. Даведка: (029) 655-55-96, (033) 655-55-96.

## ВЫСТАВЫ

### Viatoris глядзіць на зоркі

**Выставы жывапісу Пятра Яргуша (Кракаў)** «Viatoris глядзіць на зоркі» працуюць у галерэі TUT.BY (В.Харужай, 1а, 6 паверх) і ў гісторыка-культурным музеі-запаведніку «Заслаўе» **(г.Заслаўе, вул. Рынычная, 4)**. Viatoris у перакладзе з лацінскай мовы азначае «падарожнік».

### Выстава не дзіцячага малюнка

**У галерэі сучаснага мастацтва «Ў» (пр.Незалежнасці, 37а)** да 19 чэрвеня працуе выстава твораў Міхаіла Гуліна «Выстава не дзіцячага малюнка». Мастак звяртаецца да тэмы мас-медыя і аналізуе механізмы, законы і рытуалы, якія вызначаюць сёння дыстрыб'юцыю і рэцэпцыю візуальнай інфармацыі. На выставе прадстаўлены дзве групы твораў, якія экспануюцца ў дзвюх прасторавых зонах: Minimal Sexual і «Дзіцячая дэманалогія».

### Арт-лінія

**Да 17 ліпеня ў Нацыянальнай бібліятэцы** працуе выстава графічных работ студэнтаў Акадэміі мастацтваў у рамках IV Мінскай міжнароднай выстаўкі графікі «Арт-лінія». У экспазіцыі прадстаўлена больш за 40 дыпломных і курсавых работ студэнтаў і выпускнікоў кафедры графікі за апошнія 10 гадоў.

### Кранальная выстава

**У Мастацкім музеі (вул.Леніна, 20) да 18 чэрвеня** працуе выстава скульптуры — «Кранальная выстава». На выставе можна ўбачыць творы Алега Варвашэні, Андрэя Вараб'ёва, Аляксандра Мінькова, Дзмітрыя Аганава, Сяргея Аганава, Андрэя Асташова. Назву выставы трэба разумець літаральна — экспазіцыя павінна пашырыць межы ўяўленняў аб класічным музеі, дзе зазвычай забаронена датыкацца да экспанатаў.



**Выстава адной карціны: Ісак Давідовіч. Францыск Скарына**

**У Мастацкім музеі працуе выстава карціны** класіка беларускага паваеннага мастацтва Ісака Давідовіча «Францыск Скарына». Яна была створаная ў 1960-я і ўпершыню экспанавалася на выстаўцы 1968–1969 гг., прысвечанай 50-годдзю БССР. Карціну можна будзе пабачыць да 2 ліпеня.

### І пекнаты тваёй сакрэт нібы ўсяго жыцця разгадка

**Да 18 чэрвеня ў Мастацкім музеі** працуе выстава «І пекнаты тваёй сакрэт нібы ўсяго жыцця разгадка…», прысвечаная жанчыне. Экспазіцыю складаюць творы графікі сучасных беларускіх мастакоў Сяргея Цімохава, Аляксандра Шапы, Андрэя Асташова і іншых.

### Копія ўяўнай рэальнасці

**У Мастацкім музеі да 13 чэрвеня** працуе фотавыстава твораў Андрэя Шчукіна і Дзяніса Нядзельскага «Копія ўяўнай рэальнасці».

### Стыхіі

**Да 26 чэрвеня ў галерэі «Вільнюс» (вул.Каліноўскага, 55)** працуе выстава Сяргея Пыжыкава «Сціхіі». На выставе прадстаўленыя жывапісныя працы, акварэлі. Нябесныя краявіды творцы адлюстроўваюць шырокі спектр настрояў — як прыродных, так і ўнутраных : ад бязвоблачнага спакою да перадпавальнічнага стану і разгулу стыхіі…

## ТЭАТРЫ

**17 чэрвеня**

**Беларускай драматургіі** — «Раман + Юлія»

**Купалаўскі** — «Каханне ў стылі барока»

**Оперы і балета** — «Лебядзінае возера»

**18 чэрвеня**

**Лялек** — «Марозка»

**19 чэрвеня**

**Лялек** — «Піпі-Доўгаяпанчоха»

**Купалаўскі** — «Памінальная малітва»

**20 чэрвеня**

**Купалаўскі** — «Хам»

**Беларускай драматургіі** — «Белы анёл з чорнымі крыламі»

**Оперы і балета** — «Дзікае паляванне караля Стаха»

**21 чэрвеня**

**Беларускай драматургіі** — «Чорны квадрат»

**Оперы і балета** — «Трыстан і Ізольда. Пахіта»

**Купалаўскі** — «Самотны захад»

**22 чэрвеня**

**Купалаўскі** — «Самотны захад»

**Купалаўскі** — «Паўлінка»

**Беларускай драматургіі** — «Калі скончыцца вайна»

**23 чэрвеня**

**Оперы і балета** — «Сільфіда»

**Беларускай драматургіі** — «Містэр Розыгрыш»

**24 чэрвеня**

**Беларускай драматургіі** — «Сёстры Псіхеі»

**Купалаўскі** — «Зіма»

**25 чэрвеня**

**Лялек** — «Чырвоны Каптурок»

**26 чэрвеня**

**Лялек** — «Мыйдадзір»

**Беларускай драматургіі** — «Cerf-volant / Летучы над...»

## КІНО

### Людзі Х: Першы клас

**X-Men: First Class**
ЗША, 2011, каляровы, 132 хв.
**Рэжысёр:** Мэцью Вон
**Ролі выконваюць:** Міхаэль Фасбэндэр, Джэймс МакЭвой, Кевін Бэйкан, Джэніфер Лоўрэнс, Роўз Бірн, Джэньюры Джонз
**Жанр:** Кінакомікс
**Адзнака:** 6 (з 10)

Эрык Леншэр і прафесар Ксаўе арганізуюць школу для паранармальных дзяцей. Сінія звышчалавекі на службе ЦРУ палююць за былымі нацыстамі і ўвязваюцца ў Карыбскі крызіс.

Прывабнасць усё новых і новых коміксаў, якія з'яўляюцца на экранах, — у паўтаральнасці масак і зубадрабільнасці прыгодаў. Калматыя героі сучасных міфаў сябруюць з тэхнікай і ваенным рыштункам, насылаюць на савецкіх генералаў эратычныя галюцынацыі. Ціхмяны падлетак з турэмным досведам кідае вогненныя ласо, а нягеглы навуковец абрастае поўсцю і гарою мышцаў.

Знаёмыя па ранейшых кінакоміксах героі — Магнета, прафесар Ксаўе, Містык — уцягнутыя ў вялікую гісторыю і палітыку. Нечаканы кантэкст — з Асвенцімам і Карыбскім крызісам — адметнасць карціны, роўна як і яе пэўная «ачалавечанасць». І хаця белазубы пафас нікуды не падзеўся, ён саступіў трохі месца сяброўству, нянавісці, дараванню.

Карціна выклікала ў публікі процьму станоўчых водгукаў, хаця яны і перабольшаныя.

**Андрэй Расінскі**



# Летнія прыгоды на гарналыжных курортах

Што прапануюць наведнікам «Сілічы», «Якуцкія горы» і іх канкурэнты?



Летам Мінск таксама ператвараецца ў курорт.

GENERATION.BY

### Сілічы

Найбуйнейшы, але і самы дарагі беларускі курорт працуе напоўніцу і зімой, і летам. Толькі цяпер замест снегаходаў попытам карыстаюцца квадрацыклы і лыжаролеры. Летні адпачынак таннейшы за зімовы. Пракат мяча каштуе пяць тысяч рублёў, шэзлонга — дзесяць тысяч.

У «Сілічы» часцей за ўсё прыязджаюць кампаніямі. Арандаваць пляцоўку для міні-футбола, гандбола ці іншых гульняў каштуе 50 тысяч рублёў за гадзіну. Адна гульня ў пейнтбол (100 шароў) — 40 тысяч рублёў. Для карпаратыўнага адпачынку можна зняць нумары ў трохзоркавым гатэлі ці прэстыжныя двух- і чатырохмясцовыя катэджы.

Як дабрацца? 32 км па трасе М3 з Мінска ў бок Віцебска, на павароце на Жодзіна — направа, і 1,5 км да «Сілічаў». Альбо аўтобусамі №350 і №400С ад аўтавакзала «Маскоўскі».

### Якуцкія горы

Улетку тут прапануюць пагуляць у гарадкі і пляжны валейбол, паспрабаваць сябе ў ціры і пакатацца на квадрацыклах. Некаторыя паслугі таннейшыя, чым у «Сілічах». Для прыкладу, пляцоўка для міні-футбола і валейбола каштуе ўсяго 20 тысяч рублёў за гадзіну. Пейнтбол варта замаўляць загадзя, але гульня на 200 шароў будзе каштаваць 55 тысяч рублёў. Вось толькі гатэля ў Якутах няма.

Як дабрацца? Выезд з Мінска па гродзенскай трасе, далей звярнуць на дарогу Заслаўе—Дзяржынск, а адтуль — на Івянец. Каля вёскі Скірмунтава будзе ўказальнік на Якуты.

### Лагойск

Гарналыжны цэнтр «Лагойск» прапануе і гасцініцу, і гасцявыя домікі. Поле тут каштуе 50 тысяч рублёў, як і ў «Сілічах». Квадрацыкл — 4 000 рублёў за хвіліну, а пейнтбол — ад 40 тысяч. Тэнісныя корты — па 45 тысяч за гадзіну.

Ёсць цікавыя прапановы для аматараў вады. Гэта і арганізаваная рыбалка, і пракат катамаранаў.

Як дабрацца? 35 км па трасе М3 з Мінска ў бок Віцебска да ўказальніка «Гарналыжны цэнтр «Лагойск».

### Крутагор'е

Не надта вядомы парк адпачынку знаходзіцца непадалёку ад «Якуцкіх гор», у вёсцы Пярхурава Дзяржынскага раёна.

Апроч звычайнага ціра і пракату квадрацыклаў, тут прапануюць і ўнікальныя атракцыёны. Напрыклад, вяровачны горад — гэта своеасаблівая бяспечная альтэрнатыва скалалажанню, тарзанка, праход па бервяне, замацаванаму на вышыні 6 м.

Як дабрацца? Выезд з Мінска па гродзенскай трасе, звярнуць на дарогу Заслаўе—Дзяржынск, павярнуць налева каля вёскі Пярхурава.

**Яўген Васількоў**

## Сапраўдная беларуская кухня

### Мазгі ў жэле халодныя

**Цялячыя мазгі, 2—3 лыжкі воцату, соль, 0,5 лімона, 2 лыжкі аліўкавага алею. Да гэтага жэле.**

Зрабіць мясное жэле з галавізны і мяса. Мазгі з трох цялят або з двух кароў вымыць, вымачыць, каб сышла кроў, зварыць у вадзе з дадаткам воцату, астудзіць, не вымаючы з вады, ачысціць ад валокнаў, парэзаць кубікамі, пасаліць, выціснуць на іх сок лімона, дадаць пару лыжак аліўкавага алею і вымешаць. Для гэтай стравы трэба мець бляшаныя формачкі ў форме зорак з шырокімі трубкамі, якія вымаюцца. У формачкі-зоркі наліць троху жэле, калі астыне — паставіць трубку, зноў падліць жэле навокал, пакласці ў яго столькі мазгоў, каб пасля вымання трубкі можна было яшчэ заліць зорку жэле. Наліўшы цалкам, астудзіць.

Гэтая страва незвычайная, яна смачная і прыгожая. Мазгі ў празрыстым жэле выглядаюць вельмі эфектна. Падаюцца паміж супам і кавалкам мяса.

**З кнігі Вінцэнты Завадскай «Кухарка літоўская», 1854.**

**Падрыхтавала НБ**

## Прыватныя абвесткі

**ЛЕТНІК**

**Летнік перакладчыкаў біблійных, багаслоўскіх і літургічных тэкстаў на беларускую мову** працуе 9–17 ліпеня, парафія Божага провіду ў Слабодцы (Віцебская вобл., Браслаўскі р-н). Даведкі па т.: (029) 346-14-93 (Наталля Васілевіч), (029) 715-36-68 (кс. Сяргей Сурыновіч).

**ШУКАЮ СЛОВА**

**Перакладчыкі кнігі «Літоўская кухарка» звяртаюцца па дапамогу:** як па-беларуску барановы салцісон? У кнізе ёсць некалькі рэцэптаў стравы, якая па-польску называецца «Maciek z wątroby baraniej». Гэта страва з барановых вантробаў, якая запякаецца ў барановым страўніку. Аналагічная страва са свіных вантробаў завецца салцісонам. Расейскі аналаг стравы з барановых вантробаў мае назву «сальнік». А як такую страву менавіта з барановых вантробаў называюць у вашай мясцовасці? Пішыце на nn@nn.by.

Прыватныя абвесткі ў «НН» (не больш за 15 словаў) можна падаць бясплатна. Дасылайце поштай (а/с 537, 220050, Мінск) ці праз e-mail (nn@nn.by) або размяшчайце на форуме сайта www.nn.by. Дык скарыстайцеся!

**НАВУКА**

## Магніты замест аспірыну

Людзям з захворваннямі сардэчна-сасудзістай сістэмы, якія перанеслі інфаркт ці знаходзяцца ў групе рызыкі, дактары прызначаюць звычайны аспірын, які перашкаджае фармаванню крывяных згусткаў у артэрыях. Аднак навукоўцы з Універсітэта Тэмпл у Мічыгане вераць, што гэты прэпарат заменяць магніты. Як высветлілася, прылада, якая выкарыстоўвае магнітнае поле для разрэджвання паліва, можа аналагічна ўплываць на кроў чалавека.

Паколькі эрытрацыты ўтрымліваюць жалеза, навукоўцы здолелі зменшыць гушчыню крыві на 20—30% за хвіліну ўздзеяння магнітнага поля.

**ЯВ**

**ЯЗДА**

## У Мінску з'явіліся велатаксі

У кабінцы змяшчаюцца двое дарослых пасажыраў, месца за рулём займае кіроўца.

— Гэта экалагічны від транспарту. Такія таксі не трэба запраўляць палівам. Праўда, яны абсталяваныя электрапрывадамі, што палягчае працу кіроўцаў. Максімальная хуткасць — 25 км/г. Вытворца — кітайская фірма. Акумулятары сілкуюцца ад звычайнай электрасеткі.

Каб атрымаць правы на кіраванне незвычайным транспартным сродкам, трэба мець пасведчанне кіроўцы, умець катацца на роварах і прайсці інструктаж па тэхніцы бяспекі.

Пакуль у Мінску чатыры экатаксі. Яны курсуюць штодзень па веладарожцы ад парку Перамогі (Камсамольскага возера) да парку імя Горкага. Кошт праезду каштуе 10 тысяч рублёў у будныя дні і 15 тысяч — у выходныя.

Велатаксі (таксі-ровар) нярэдка называюць удасканаленымі рыкшамі. Сёння гэтыя машыны запатрабаваныя ў першую чаргу ў турызме. Яны працуюць на экскурсійных маршрутах у многіх гарадах свету.

**«Мінск-Навіны»**



ONLINER.BY

**КУРОРТЫ**

## Мінздароўя не раіць ехаць на Азоўскае мора

У сувязі з неспрыяльнай сітуацыяй, звязанай з халерай, Міністэрства аховы здароўя рэкамендуе грамадзянам Беларусі ўстрымацца ад паездак для адпачынку на Азоўскае мора.

Паводле звестак Сусветнай арганізацыі аховы здароўя, на тэрыторыі Украіны ў Данецкай вобласці зарэгістравана 14 выпадкаў халеры.

Заражэнне адбылося пераважна пры апрацоўцы свежазлоўленай рыбы ў месцах несанкцыянаванага скідвання сцёкавых вод або пры ўжыванні вырабленых з яе страў. Мясцовыя ўлады забаранілі плаванне і лоўлю рыбы ў рэках Кальчук і Кальміус, а таксама ў Азоўскім моры.

**БелаПАН**

**ЗАХАПЛЕННІ**

## У Мінску праходзяць экскурсіі для вывучэння птушыных галасоў

Іх ладзіць «Ахова птушак Бацькаўшчыны». Усе ахвотныя пад кіраўніцтвам спецыялістаў-арнітолагаў могуць паслухаць птушак у зялёных зонах сталіцы: заказніку «Лябяжым», Лошыцкім парку, Батанічным садзе, пойме Свіслачы ў Чыжоўцы. Удзельнікі экскурсій вучацца адрозніваць птушак па галасах.

Сярод птушак, лёгка пазнавальных па спеве, — салавей, пеначка-ценькаўка, драч, берасцянка, валасянка-завірушка. Усяго ў Мінску налічваецца каля 180 відаў птушак, у сталіцы — больш за 350 пар салаўёў.

**БелаПАН**

## Пік сезона

Беларускія клубніцы ў Мінску — 9–15 тысяч.

Сезон беларускіх трускавак — у разгары. На Камароўцы стаіць водар, як у клубнічным раі. Каштуюць ягады ад 9 да 15 тысяч за кілаграм. Цэны на ягады ў крамах і раённых кірмашах — вышэйшыя.

А вось на Лунінеччыне, дзе самыя вялікія плантацыі клубніц у краіне, мясцовае райспажыўаб'яднанне закупляе ў людзей трускаўкі па 1 000 рублёў, а «камерсанты» — за 5000—8000 рублёў за кілаграм.

Халодная зіма, позняя вясна і сухі май знізілі ўраджай чырвоных ягад у гэтым годзе не толькі ў Беларусі, але і ва Украіне і Польшчы.

**Сяргей Гезгала**




**Кожную сераду юнакі збіраюцца на цэнтральных плошчах сваіх гарадоў. Без лозунгаў. Старонка 3.**




**«Мокрыя войны» ў Мінску. Моладзь з усяго горада збіраецца ў дамоўленым праз інтэрнэт месцы і абліваецца вадой.**




**Футбалісткі зборнай Германіі абвяргаюць стэрэатып пра сваю недастатковую жаноцкасць. І дзеля гэтага сфатаграфаваліся ўсёй камандай для часопіса «Плэйбой».**




**Беларусь выйграла ў Люксембурга ў адборачным матчы чэмпіянату Еўропы-2012 2:0.**

## Анекдоты

* * *

У адказ на павышэнне цэнаў на свініну была аб'яўленая акцыя «Стоп свіння!».

* * *

У 1994-м Лукашэнка абяцаў кожнай беларускай сям'і па два халадзільнікі і два тэлевізары. Так і сталася! Некаторыя купілі нават па тры, калі пачаў расці курс даляра.

* * *

Народная прыкмета: не трэба садзіцца на золатавалютныя рэзервы. Інчай яны пачнуць няўхільна скарачацца.

* * *

У чаканні акцыі «Стоп бензін — 5!» указам прэзідэнта на праспекце Незалежнасці тэрмінова высадзілі ядловец казацкі.

* * *

— Таму можаце ісці і абвясціць усім: 4500 літр бензіну— гэта максімум, — заявіў Лукашэнка.

— Сябра, ты жывеш не па сродках, — буркнуў з задніх шэрагаў намеснік міністра эканомікі Тур.

* * *

Лукашэнка загадаў удвая зменшыць ліміт на паліва для службовых аўто ўрада і Адміністрацыі прэзідэнта. Назаўтра прэзідэнцкі картэж спыніўся на паўдарозе з Драздоў і ўключыў аварыйную сігналізацыю.

* * *

Хутка на запраўках будзе толькі той бензін, які здалі аўтамабілісты. І разам з прафесіяй валютчыка з'явіцца прафесія «бензіншчык».

## «НН» сто гадоў з вамі

**Малыя Бесяды Вілейскага павета.** Некалькі год таму наш куток дурную меў славу: не было той ночы, каб каго не абакралі. Але апошнімі часамі крыху супакоілася: найважнейшых правадыроў перацэрабілі і такі ўпіхнулі ў астрог. Баяцца толькі суседзі, каб ізноў яны не паварочаліся, як не раз ужо бывала... Слізкі народ!

**«НН». № 23. 1911.**

**115-гадовая жыхарка Францыі Мары Брэмон,** што памерла ў мінулую сераду, не была найстарэйшай жыхаркай планеты. Як паведамілі ў Гарадзенскім аблвыканкаме, у вёсцы Малыя Нягневічы Навагрудскага раёна жыве сп-ня Тэкля Баброўская, якой сёлета ў красавіку споўнілася 116 год. А ў студзені ў Гомельскай вобласці памерла 124-гадовая Марыя Шарая. Праўда, у 40-я гады многія беларускія кабеты накідалі сабе гадоў, каб іх ужо ў калгас не гналі.

**«НН». № 23. 2001.**

Наша Ніва
незалежная газета
заснаваная ў 1906, адноўленая ў 1991
**галоўныя рэдактары «Нашай Нівы»:**
З.Вольскі (1906), А.Уласаў (1906—1914), Янка Купала (1914—1915), А.Луцкевіч, У.Знамяроўскі (1920), С.Дубавец (1991—2000).
сакратарка рэдакцыі Наста Бакшанская
шэф-рэдактар Андрэй Дынько
галоўны рэдактар Андрэй Генадзевіч Скурко
заснавальнік Прыватнае прадпрыемства «Суродзічы»
выдавец Прыватнае прадпрыемства «Суродзічы»
**АДРАС ДЛЯ ДОПІСАЎ:**
**220050, Мінск, а/с 537**
**Tel/fax: (017) 284-73-29, 8-029-613-32-32, 8-029-707-73-29.**
**E-mail: nn@nn.by**
**On-line: www.nn.by**

8 палос фарматам А2, 4 друк. арк. Друкарня РУП «Выдавецтва «Беларускі Дом друку». ЛП №02330/0494179 ад 03.04.2009. Пр. Незалежнасці, 79, 220013, Мінск. Рэдакцыя не нясе адказнасці за змест рэкламных абвестак. Пасведчанне аб рэгістрацыі перыядычнага выдання №248 ад 22 чэрвеня 2009 г., выдадзенае Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь. Юрыдычны адрас: 220101, г. Мінск, вул. Асаналіева, 15-128. Р/р 3012206280014 у МГД ААТ «Белінвестбанк», Мінск, код 764.
**Наклад 7307.** **Газета выдаецца 48 разоў на год.**
Нумар падпісаны ў друк 23.00 07.06.2011.
Замова №. 2818.
ISSN 1819-1614
Рэдакцыйны адрас: Асаналіева 15-128.
Цана дамоўная.
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
9 771819 161008 11023